ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

# ЛіМ
# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

23 снежня 1994 г. № 51 (3771) Кошт 75 руб.

## «ПАДАВАЦЬ ФАКТЫ І ПАДЗЕІ ЯК МАГА АБ'ЕКТЫЎНА, ЛЕТАПІСНА, БЕЗАЦЭНАЧНА»

***Барыс САЧАНКА: "Каб стварыць і выдаць на належным сучасным узроўні Энцыклапедыю, адных грошай мала. Патрэбны энтузіясты, спецыялісты па ўсіх галінах ведаў, сапраўдныя майстры сваёй справы — вучоныя: рэдактары, аўтары, кансультанты, члены рэдкалегіі і рэдсавета..."***

**5, 12**

## БЯДУЛЯ, або ЗАГУБЛЕНЫ КЛАСІК

***Вінцук КАВАЛЕНКА: "Дзіўная абыякавасць да спадчыны пісьменніка, замоўчванне многіх яго твораў прывялі да сумнага выніку: мы не ведаем "сапраўднага" Бядулю, няздольныя прасачыць дыялектыку яго творчасці. Перад намі як бы апынулася адначасова тры Бядулі: адзін — паэт-"пачатковец", аўтар таленавіты "Абразкоў", другі — заўзяты "нацдэмавец" нашаніўскага толку, вораг бальшавізму, трэці — прыхільнік гэтага самага бальшавізму, прапагандыст вучэння Леніна — Сталіна..."***

**6—7**

## ЛЮСТРА АНЁЛАЎ

***Вершы Віктара ШНІПА***

**8**

## НОВЫЯ СТАРОНКІ

***Апавяданні Алены ВАСІЛЕВІЧ***

**9, 14—15**



## ЦІ МОЖНА ПАДАРЫЦЬ... МАРУ?

Не сумнявайцеся: можна! Балетная трупа Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі Беларусі атрымала ў падарунак тое, пра што марыць кожны малады саліст. У рэпертуары з'явіўся спектакль, якога пару гадоў таму не было нават і ў мроях. Радуюцца артысты, радуецца публіка — разам з галоўным героем спектакля, высакародным дзіваком Дон Кіхотам, які таксама пабачыў увасабленне сваёй ідэальнай мары. А ўвасабленне мары — гэта ўжо сур'ёзна...

Так, гэта — сур'ёзна: у Дзяржаўным тэатры музычнай камедыі фарміруецца маладая перспектыўная трупа, якой ужо далі ўласнае імя "Мінск-балет". Дзякуючы энтузіязму галоўнага балетмайстра тэатра Ніны Дзьячэнка, якая наладжвае і творчыя сувязі са знанымі дзеячамі харэаграфічнага мастацтва, чый педагагічны ды сцэнічны вопыт плённа рэалізуецца тут, склаўся прывабны для гледачоў і саміх выканаўцаў рэпертуар. Прынамсі, пра гэта загадчык літаратурнай часткі тэатра заслужаная артыстка Беларусі Людміла Рабушка, якая была ў свой час вядучай салісткай балетнай трупы, кажа з асаблівай прыемнасцю, бо ёй за гады ўласнай сцэнічнай кар'еры давялося танцаваць у адзінай за ўсю ранейшую гісторыю нашага тэатра музкамедыі харэаграфічнай пастаноўцы — "Паненка і хуліган" Д. Шастаковіча.

"Цяпер у рэпертуары нашай балетнай трупы, — расказвае Л. Рабушка, — "Іспанскі дывертысмент", "Штраусіяна", "Шахеразада", "Шапэніяна", разнастайнае канцэртнае аддзяленне з класічным "Па-дэ-катрам".

*(Працяг на стар. 13)*

# ЛіМ КОЛА ДЗЁН

***Снежань. Маразы. Пад дваццаць і за дваццаць градусаў. Аднак якраз на гэтую халадэчу прыпала чарговае ажыўленне палітычнага жыцця на Беларусі. Тры партыі — грамадзянская, аб'яднаная дэмакратычная і камуністаў — правялі свае з'езды. Спробу афіцыйна адкрыць на Беларусі сваю філію зрабілі расейскія нацыянал-фашысты. БНФ правёў мітынг у падтрымку барацьбы чачэнскага народа за незалежнасць, на якім жорстка крытыкавалася антыбеларуская палітыка "рэжыму Лукашэнкі". І, нарэшце, незвычайна бурна пачалося чарговае пасяджэнне сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі... Прычына гэтакай зімовай актыўнасці, па меркаванні друку, адна — не за гарамі выбары ў новы Вярхоўны Савет. Як кажуць, рыхтуй сані летам, а калёсы зімою.***

## *ПАДЗЕЯ ТЫДНЯ*

Даклад Сяргея Антончыка на сесіі ВС Беларусі чакаўся даўно. У прэзідэнта і яго каманды была магчымасць добра падрыхтавацца і даць "дастойны" адпор "проискам" апазіцыі. А таму ніякіх сенсацый у гэты дзень не чакалася. І тым не менш яны адбыліся. Пасля даклада С. Антончыка заявы пра адстаўку зрабілі кіраўнік адміністрацыі прэзідэнта Л. Сініцын і кіраўнік спраў прэзідэнта І. Ціцянкоў, аб часовым прыпыненні сваіх паўнамоцтваў заявіў міністр абароны А. Кастэнка. Сам прэзідэнт спачатку заверыў дэпутатаў: маёй адстаўкі не дачакаецеся, а потым, адказваючы на абвінавачанне аб фінансаванні ягонай перадвыбарчай кампаніі некаторымі фірмамі, сказаў: калі дакажаце віну — пайду ў адстаўку... Пасяджэнне было шумным, аднак нейкага пэўнага рашэння дэпутаты не прынялі: даклад прыняты да ведама, праваахоўным органам даручана праверыць прыведзеныя факты і далажыць пра вынікі праверкі да 1 лютага 1995 года.

## *ПРОЦІСТАЯННЕ ТЫДНЯ*

Ужо некалькі разоў расейскія ўлады заяўлялі аб поўнай блакадзе Грознага і аб тым, што ў бліжэйшыя некалькі гадзін з рэжымам Дудаева будзе пакончана. Але па паведамленнях незалежных сродкаў масавай інфармацыі сітуацыя вакол Грознага не такая простая, як запэўнівае нас "Астанкіна". Поўнай блакады Грознага няма, у горадзе канцэнтруюцца сілы, у склад якіх уваходзяць не толькі чачэнцы, але і абхазы, інгушы, дагестанцы, афганцы і іншыя горскія і не горскія народы, у гарах ствараюцца базы для магчымай партызанскай вайны... Рускія ж хлопцы гінуць за інтарэсы імперыі, а дакладней, некаторых прамысловых мафіёзных структур, звязаных з урадам, не хочуць. Процістаянне паступова набывае зацяжны характар са штодзённымі чалавечымі ахвярамі. У прэзідэнта Расіі не хапае рашучасці ні аддаць загад на вывад войск з Чачні, ні пачаць штурм Грознага. Між тым, чым далей заходзіць чачэнскі крызіс, тым больш балючай (для любога з бакоў) будзе ягоная развязка...

## *ЦЫТАТА ТЫДНЯ*

"Расея — апошняя імперыя — ніколі не стане цывілізаванай краінай, пакуль будзе абчэпленая такімі "братамі меншымі", як мы. Бо ў такой сітуацыі яна сама не зможа выпрацаваць палітычную волю нармальнай (як іншыя) краіны, а будзе вымушаная шызафрэніраваць паміж функцыямі супербагатай і адначасова супербеднай дзяржавы, кармільцы і тырана, "родины свободы" і "тюрьмы народов". Яна будзе весці лакальныя войны, душыць паўстанні, сціскаць у аблозе гарады, як рабіла гэта праз усю сваю гісторыю. Пакуль такія, як мы, не даспеюць да ўласнае палітычнае волі і не вызваляць яе ад абавязкаў ката-алекуна. Пакуль жа Расеі нас і ўтрымліваць брыдка і кінуць шкода".

*(З артыкула С. Дубаўца "Палітычная воля", "Свабода", N 48)*

## *АКТЫЎНАСЦЬ ТЫДНЯ*

Мінюст Беларусі не так даўно забараніў выкарыстанне слова "Беларусь" — у назвах партый. І таму на з'ездах трох партый, што прайшлі ў мінулыя суботу і нядзелю, пытанне аб назвах было не апошнім. Працей за ўсё было сябрам Грамадзянскай партыі, якія праводзілі свой устаноўчы з'езд. Партыя толькі створана і вядомасці ў краіне пад пэўнай назвай пакуль не набыла. Дарэчы, праграма новай партыі блізкая да духу да пазіцый ПНЗ і АДПБ. Лідэрамі партыі сталі рэктар Бабруйскага недзяржаўнага інстытута кіравання Мікалай Бабрыцкі, драматург Аляксей Дудараў і прэзідэнт акцыянернага канцэрна "Амкадор" Васіль Шлындзікаў. Пяты з'езд АДПБ захаваў абрэвіятуру партыі і свайго старшыню — Аляксандра Дабравольскага, але зняў слова "Беларусі" з поўнай назвы і ўнёс карэктывы ў накірунку дзейнасці партыі, улічваючы блізкую выбарчую кампанію. Камуністы на сваім трэцім з'ездзе таксама захавалі абрэвіятуру ПКБ, але расшыфроўвацца цяпер яна будзе інакш: партыя камуністаў беларуская. З'езд разгледзеў і пытанне аб сімволіцы: партыйным гімнам абраны "Інтэрнацыянал", а сцягам — чырвоны сцяг СССР (не БССР)...

## *ІНЦЫДЭНТ ТЫДНЯ*

Былы расейскі пісьменнік-дысідэнт, а сёння адзін з самых актыўных абаронцаў усяго савецкага і "ісцінна-рускага" Эдуард Лімонаў паездку ў талерантную Беларусь запомніць надоўга. Памяркоўныя беларусы добра ведаюць, што такое фашызм, каб дазволіць розным "сокалам", "баркашоўцам" і іншым спакойна атабарыцца на нашай зямлі. Мінчукі "сарвалі" сустрэчу "Эдзічкі" са сваімі паплечнікамі. Галоўны герой вымушаны быў ратавацца праз вакно грымёрнага пакоя, але быў затрыманы і дастаўлены ў Фрунзенскі РАУС. Па паведамленні "Народнай газеты", супраць "Эдзічкі" ўзбуджана крымінальная справа за прапаганду насілля.

## *ПАДЛІК ТЫДНЯ*

Федэральны банк Швейцарыі правёў незвычайнае даследаванне ўзроўню жыцця ў 72 краінах свету. Была пастаўлена мэта высветліць — колькі ў сярэднім часу трэба адпрацаваць у той ці іншай краіне, каб зарабіць на адзін Біг-Мак (бутэрброд фірмы "Макдональдс"). У ЗША на гэта трэба працаваць 14—19 хвілін, у Заходняй Еўропе — ад 20 хвілін да адной гадзіны, у Венгрыі — 128 хвілін, у Празе — 141, а ў Маскве — восемь гадзін... Колькі часу давядзецца ўкалваць за гэты "прысмак" беларусу — швейцарцы не высвятлялі. Але мы і так ведаем, што не адзін дзень... Ці не таму "Макдональдс" і не спяшаецца з адкрыццём сваёй кавярні ў Мінску...

## *ПРЫЗНАННЕ ТЫДНЯ*

Як паведаміў тыднёвік "Свабода", 14 снежня Мітрапаліт Філарэт адсвяткаваў свае імяніны. Сярод іншых прыехалі яго павіншаваць і трое віцебскіх... казакаў. Казацтва Беларусі (ёсць, аказваецца, і такое, толькі невядома, з якіх "традыцый" яно ўзнікла) прадставіла Філарэта да сваёй найвышэйшай узнагароды — ордэна "За любоў да Айчыны І-й ступені". "Прымаючы яго, — піша "Свабода", — уладыка расчуліўся і нават расплакаўся". Айчына, як бачыце, высока цэніць дзейнасць свайго сына на тэрыторыі суседняй дзяржавы. Мы ж, пэўна, недаацэньваем...

З нагоды

# З ВЯЛІКАГА ГРОМУ...

У адным з апошніх нумароў "Народнай газеты" было змешчана інтэрв'ю старшыні Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Беларусі Р. Кісяля, дзе ён, аргументуючы немэтазгоднасць штодзённых тэлетрансляцый пасяджэнняў Вярхоўнага Савета, спаслаўся на тое, што кожная з іх абыходзіцца падаткаплацельшчыкам у 10 мільёнаў рублёў. "У нас што — грошы лішнія?" — патэтычна пытаўся старшыня.

Тут, у Авальнай зале парламента, дзе на пачатку гэтага тыдня на вачах шматлікіх прадстаўнікоў прэсы і гасцей разгортваліся гарачыя баталіі, мне раптам падумалася, што да названых спадаром Кісялём 10 мільёнаў варта было б дадаць і яшчэ некалькі дзесяткаў мільёнаў рублёў, у якія абыходзіцца кожны дзень работы сесіі. Факт застаецца фактам — нямала можна налічыць дзён, калі парламенцкая машына на сесіях буксуе на месцы, а ўся ўтвараемая ёю ад перагрэву пара ідзе ў свісток.

Амаль увесь першы дзень працы дэпутатаў у панядзелак 19 снежня пасля іх вяртання з двухтыднёвых канікулаў быў прысвечаны намечанаму на заўтра дакладу дэпутата С. Антончыка аб фактах карупцыі ў прэзідэнцкай камандзе, вакол якога ўжо працяглы час вялася прапагандысцкая шуміха і тым-сім кваліфікавалася як міна, што патопіць лукашэнкаўскі карабель. А пакуль што свае коп'і народныя абраннікі скрыжавалі ў спрэчцы вакол пытання — слухаць даклад у адкрытым пасяджэнні, ці, як прапанавала нарада старшынь пастаянных камісій — у закрытым. Дзякуй богу, у дзень ікс большасць дэпутатаў прагаласавала (дарэчы, з падачы прэзідэнта) за тое, каб прадстаўнікі СМІ і госці прысутнічалі на слуханні даклада С. Антончыка.

І вось усё засталося ззаду, страсці аціхлі, можна спакойна падумаць пра ўсё пачутае. Што можна сказаць? "За что боролись, на то и напоролись". Я маю на ўвазе створаную Вярхоўным Саветам больш года назад "антыкарупцыйную" камісію на чале з цяперашнім прэзідэнтам, а тады радавым дэпутатам А. Лукашэнкам. І лукашэнкаўскаму дакладу і цяперашняму — С. Антончыка прадракалі, што яны скалануць "асновы". Не "скалануў" ні першы, ні другі. І не таму, што не хапіла "кампрамату". Яго назапашання было аж залішне. Але нейтралізавала ўсе гэтыя факты і факцікі ўсведамленне таго, што паважаныя дэпутаты ўзяліся не за сваю справу, і яшчэ таму, што пры гэтым было парушана адно з асноўных палажэнняў цывілізаванай юрыспрудэнцыі аб прэзумпцыі невінаватасці. Вызначыць ступень вінаватасці чалавека перад законам можа толькі суд. Вядома, па прадстаўленні пракурора, які з'яўляецца фігурай незалежнай, якая кіруецца толькі законам.

У нас жа ўзялі на сябе адначасова функцыі і пракурора, і суддзі тады А. Лукашэнка, цяпер — С. Антончык.

Апошні пачаў з паведамлення, што свой даклад кваліфікуе, як экзамен для прэзідэнта і яго каманды. Пра тое, хто яго прызначыў на ролю экзаменатара, можна было толькі здагадвацца. У катэгарычнай форме з уласцівай яму напорыстасцю дакладчык нанізваў адно абвінавачванне на другое. Паводле яго слоў, прычыны усіх нашых бядот у тым, што ўладу ў краіне захапілі "аграрная" і "чарнобыльская" мафіёзныя кланы (помніцца А. Лукашэнка гаварыў аб захопе ўлады "прамысловай" мафіяй). Зрабіўшы такое абагульненне, С. Антончык перайшоў, як кажуць, да персаналіяў, ведучы прыцэльны агонь па вышэйшых службовых асобах ва ўрадзе і адміністрацыі прэзідэнта, пачынаючы са Старшыні Кабінета Міністраў М. Чыгіра і канчаючы кіраўніком адміністрацыі І. Ціцянковым. Амаль усе абвінавачанні лукашэнкаўскай каманды цягнулі адразу на некалькі артыкулаў Крымінальнага кодэксу. Гэта махлярства, злоўжыванне службовым становішчам, прысваенне грошай у асабліва буйных памерах і нават наўмыснае "падтрыманне інфляцыі". Што тычыць самога прэзідэнта, дык яму інкрымінавалася, што ён з'яўляецца ці не стаўленікам расійскіх спецслужбаў.

Так, паўторым, выкрывальных фактаў у дакладзе прагучала шмат. Але злавіў сябе на думцы — чым больш іх слухаў, тым менш ім верыў. І, разам з тым, сапраўды, дыму без агню не бывае. І, відаць, многія выпадкі сур'ёзнага парушэння закона, нагаданыя ў дакладзе, мелі месца. Адзначым і тое, што некаторыя з самых набліжаных да прэзідэнта асоб, трапіўшых у "чорны" спіс С. Антончыка, потым, стоячы на трыбуне і робячы спробу "адмыцца" ад прад'яўленых абвінавачанняў, у сваёй невінаватасці дэпутатаў не пераканалі, і да таго ж, прадэманстравалі пры гэтым не вельмі ўжо і высокі інтэлектуальны ўзровень.

Але зноў жа, і гэта прагучала ў рэпліках некаторых дэпутатаў ад мікрафона, — дзе ж былі, куды глядзелі нашы праваахоўныя органы — тая ж пракуратура (я наглядаў, як са згодай ківаў галавой, слухаючы дакладчыка, Генеральны пракурор рэспублікі В. Шаладонаў), МУС, нарэшце, КДБ, старшыня якога У. Ягораў неаднойчы запэўніваў парламент, што барацьба з карупцыяй, злоўжываннямі ўладай з'яўляецца адным з напрамкаў дзейнасці падначаленага яму ведамства.

Чаму ж усім гэтым павінен быў займацца, па сутнасці, аматар, нават не юрыст па прафесіі, які, дарэчы, пры ўсякім зручным выпадку не праміне сказаць, што ён просты рабочы, прыйшоў у парламент " ад станка"? Пры ўсёй маёй павазе да рабочага чалавека, не ўтрымаюся, скажу — усё-такі пірагі павінен пячы пірожнік і г. д., як у вядомай байцы.

І яшчэ пра адзін нюанс, які быццам бы і не звязаны з усёй гэтай парламенцкай разборкай, але... Так атрымалася, што маім суседам у зале пасяджэнняў ВС аказаўся былы буйны партыйны бонза, якога я апошні раз бачыў у ягоным кабінеце ў ЦК КПБ, куды ён выклікаў калектыў "ЛіМа" для чарговай "прамыўкі мазгоў". У час даклада С. Антончыка ён раптам павярнуўся да мяне і, назваўшы маё прозвішча, з выклікам вымавіў: "Вось вы ўжо тры гады ганіце камуністаў, а пры нас такога, пра што гаворыць дакладчык, не было. Гэтыя "новыя" нас з вамі, у каго ніколі нічога не было, абдзяруць як ліпку".

Я не палічыў патрэбным нешта адказваць яму. А мог бы і сёе-тое сказаць. Хоць бы тое, што асобы, названыя ў дакладзе, спрэс былыя камуністы, менавіта партыяй выхаваныя ў непавазе да закона, непавазе да агульначалавечых каштоўнасцей, якія аб'яўляліся партыйнай прапагандай буржуазнымі прыхамацямі, у непавазе да прынятых у цывілізаваным свеце паняццяў маралі і прыстойнасці.

Што тычыць таго, што ў нас абодвух ніколі нічога не было і мы стаялі і стаім на адной сацыяльнай прыступцы, дык гэта ўжо чыстае фарысейства, бо хіба толькі немаўля не ведала, што меў і якімі прывілеямі, якой уладай карыстаўся загадчык аддзела ЦК КПБ, а пасля і член палітбюро і сакратар ЦК расійскай кампартыі.

А калі шчыра, дык я разумею настальгію гэтых людзей аб мінулым: вельмі ж многа яны страцілі. І не губляюць надзеі ўсё вярнуць. Вечарам таго ж дня па радыё пачуў, што на адбыўшымся з'ездзе партыі камуністаў Беларусі мой выпадковы сусед быў абраны членам яе цэнтральнага камітэта.

Успамінаючы тыя два дні ў парламенце, зноў уздыхну — ну, што ж, ён у нас не такі яшчэ цывілізаваны, як хацелася б. І ўсё, спадарства, гэта мілей майму сэрцу, чым відовішча, што дзесяцігоддзямі паўставала перад намі ў той жа Авальнай зале Дома ўрада — лес дружна ўзнятых рук і бяздумна, абыякава выгукнутае: "Одобрям-с!"

**М. ЗАМСКІ**

Марцін КОЎЗКІ

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

Папера на плакатах зараз празрыстая, прыглядаюся да афішных стэндаў — партрэты былога прэм'ерміністра выступаюць на адозвах прэзідэнта. Знаходзяцца, праўда, малаверы, што тлумачаць эфект не паперай.

●

Падвоілася колькасць рэйсаў на авіялініі Мінск—Нікасія. Кіпр наведваюць не толькі турысты і бізнесмены, а і дзяржаўныя дзеячы. З беларусамі тут заключаюць так званыя "Пратаколы аб намерах", якія ні да чаго не абавязваюць абодвы бакі. Марнасць рэзультатаў нікога не турбуе, бо паездкі планавыя, валюта на іх адпушчана. "Над востравам залаты дождж", — пішуць кіпрскія газеты. Днямі тут чакаюць чарговую каманду з Мінска, далейшы маршрут якой Лондан — Нью-Йорк — Парыж. Зноў "Пратаколы аб намерах".

●

Агароджаныя кратамі і шклом, балконы страцілі веліч. Вунь незашклёны яшчэ зеўрыць святлом дрыготкім. Схопленыя прышчэпкамі, двухгаловым арлом адзіныя і непадзельныя рвуцца ў неба калготкі.

●

Я ўсё жыццё быў маладым: ленінцам, камсамольцам, чалавекам, спецыялістам, кіраўніком, маладым з выгляду, маладым па голасе, шкадавалі нават — памёр маладым. Дык хай бы былі хоць нейкія прывілеі, а не той жа кароткі злучок між дзвюма датамі, нават рад не ганаровы. Адно цешыць: на сваім участку я наймаладзейшы!

●

Дзеці алкаголікаў — інваліды з дзяцінства, як ім дапамагчы? "Вінавата бацькоўскае п'янства і свінства", — кажуць урачы. А бацькоўскае п'янства хіба з веку паганства? А бацькоўскае свінства хіба родам з дзяцінства? Бацькі дзяцей-інвалідаў з дзяцінства, як ім дапамагчы? Маўчыцё, урачы?

●

Вусень яблык свідраваў і ўбачыў сонца: "Нешта праўду мне казала — свет наш не бясконцы".

●

Уецца сумніву ніць, не ўцягнуць галаву ў каўнерык, да прывычнага "Што рабіць?" дадалося "Каму верыць?" Любіць, не любіць, да сэрца прытуліць, к чорту пашле... Усё яшчэ ў імгле.

●

Вырастаюць не дачы — палацы, цешаць вока мафіёзным структурам. "Патрабуем ад забудоўшчыкаў справаздачы, — тлумачаць у пракуратуры. — Заведзены справы на падазроных, заведзены, але не ўзбуджаны"... Заляглі ў глухой абароне маласільныя рыцары правасуддзя.

●

Папрывыкалі пакрысе, што гандлю кадраў не хапае. Цяпер ужо гандлююць усе, і ўсе хітруюць і абражаюць.

# ПАЛЕССЕ ЯК СКАРБОНКА САМАБЫТНАСЦІ

У Беларускім інстытуце праблем культуры прайшоў "круглы стол" з удзелам абласных і раённых упраўленцаў адпаведнага профілю. Абмяркоўваўся праект Дзяржаўнай праграмы па адраджэнні традыцыйнай мастацкай культуры Палесся як адметнага этнаграфічнага рэгіёна, скарбонкі нашай нацыянальнай самабытнасці.

Праекту папярэднічала значная праца творчага калектыву, які даследаваў сучасны стан народных рамёстваў, промыслаў, музычнага мастацтва ў 7 раёнах Усходняга і Заходняга Палесся, правёў сацыялагічнае апытанне, зафіксаваў найбольш адметныя ўзоры і асяродкі бытавання. Навуковы кіраўнік часовага калектыву, старшыня Саюза майстроў народнай творчасці Яўген Сахута і вёў пасяджэнне.

Кінулася ў вочы неаднолькавая ступень зацікаўленасці ўдзельнікаў прадметам гаворкі (што можа сведчыць і пра неаднолькавую прафесійную адпаведнасць). Пытанні і выступы з месц тычыліся як агульных, так і прыватных момантаў зместу праграмы. Напрыклад, выказваліся сумненні адносна стварэння Фонду развіцця традыцыйнай культуры. Не зусім ясна, як ён будзе суадносіцца з абласнымі аддзяленнямі ўжо існуючага Фонду культуры Беларусі. Было прызнана немэтазгодным вылучэнне спісам асяродкаў бытавання (вёсак): канкрэтныя "кропкі" не горш ведаюць на месцах, у саміх раёнах. Меліся пытанні па статусе запаведнай зоны, які мяркуецца надаць палескаму рэгіёну, і адпаведнасці гэтага статуса існуючаму заканадаўству.

А больш за ўсё выклікала сумніў рэальнасць ажыццяўлення гэтай безумоўна патрэбнай Дзяржаўнай праграмы. Прывядзём меркаванне фальклырыста, кіраўніка экспедыцый Васіля ЛІЦВІНКІ:

— Гэтая праграма можа легчы пад сукно, як і ўсе папярэднія. На сёння яе фінансавае забеспячэнне падаецца безнадзейным, асабліва, калі мець на ўвазе адносіны да культурнай сферы з боку цяперашняй выканаўчай улады. Тым не менш, мой сённяшні лозунг — "У народ і край свой толькі веру і веру ў самаго сябе". Было б няблага, каб крылатыя Купалавы словы зацвердзіў кожны беларус.

Што традыцыйная культура існуе на Палессі натуральным чынам, у спрыяльнай псіхалагічнай атмасферы і перадаецца ў спадчыну, пра тое сведчыць далучанасць да яе саміх работнікаў культуры. Прынамсі, інспектар аддзела культуры Ганцавіцкага райвыканкама Марыя Муха — сама не з горшых — па яе сціплым вызначэнні — вышывальшчыц, майстрыхамі ў сям'і былі таксама маці і цётка. Вось толькі ўзоры даводзіцца браць з украінскай кнігі ды ніткі зараз дорага каштуюць...

Стала зразумелым, чаму не ўсе ўдзельнікі "круглага стала" пагадзіліся з канстатацыяй усеагульнага заняпаду традыцыйнага мастацтва на Палессі. Мабыць, экспедыцыі аб'ектыўна не маглі ахапіць багацце і разнастайнасць мастацкіх праяў, што існуюць там і павінны быць захаваны.

Адзін з пунктаў разгледжанага праекта варты таго, каб быць прыведзеным у поўным выглядзе. Вось ён:

"Улічваючы думку мясцовага насельніцтва, правесці работу па аднаўленні традыцыйнай тапанімікі, вяртанні гістарычных назваў населеных пунктаў, устаноў, грамадскіх арганізацый, мастацкіх калектываў і інш.

1995—1996 гг. Адказныя: Міністэрства культуры і друку Мясцовыя органы ўлады".

Тут не абысціся без каментарыя.

Па-першае, дзіўна, чаму менавіта ў гэтым дакуменце і толькі ў дачыненні да Палесся сфармулявана неадкладная агульнанацыянальная задача. Па-другое, што перашкаджае згаданаму міністэрству ажыццявіць яе тэрмінова, не чакаючы, пакуль атрымае "дабро" калектыўны плод высілкаў начальства і навукоўцаў?

Былі абмеркаваны таксама раздзелы, якія тычацца каардынацыі навуковых даследаванняў, забеспячэння пераемнасці традыцый, папулярызацыі мастацкіх дасягненняў. У праект закладзена адкрыццё ў Пінску Палескага дзяржаўнага універсітэта для падрыхтоўкі спецыялістаў мастацкага профілю. Плануецца на базе інстытута праблем культуры правесці мэтавыя курсы для работнікаў культуры Гомельскай і Брэсцкай абласцей і атэстацыю па валоданні беларускай мовай. Праўда, у дужках чамусьці дадаецца: "літаратурным унармаваным варыянтам ці мясцовай гаворкай", што па сутнасці ўроўнівае літаратурную мову з мясцовым дыялектам. Мабыць, без ідэй "Збудзіньня" не абышлося...

Прагучала з месца пытанне "на засыпку": калі штось падобнае будзе распрацавана адносна культур Паазер'я, Прыдняпроўя... Пытанне, якое засталося, на жаль, без адказу.

**НАШ КАР.**




Адгалоскі

# ХТО З КІМ ГУЛЯЕ...

Інфармацыя пра паездку беларускай урадавай дэлегацыі ў Маскву на перамовы з АТ "Газпрам", што прамільгнула не так даўно, засталася па-за ўвагай большасці беларускіх назіральнікаў. І дарэмна, бо гэтая падзея ўяўляецца не толькі значнай, але і сведчыць аб пэўнай тэндэнцыі ў нашай эканоміцы. Калі быць дакладным, то праблемы з энергарэсурсамі прывялі да таго, што кіраўнікі суверэннай дзяржавы аказаліся вымушаны ісці на паклон да прыватнай кампаніі.

Пачаць з таго, што Беларусь прапанавала дзецішчу Віктара Чарнамырдзіна расійскаму "Газпраму" частку акцый прадпрыемстваў, якія ўваходзяць у наш нафтаперапрацоўчы комплекс, у тым ліку "Белтрансгаз" і ВА "Азот". Палітычныя ацэнкі гэтай падзеі лёгка прадбачыць. А наша гаворка звязана з эканамічнай падаплёкай таго, што адбываецца. Тут ёсць над чым падумаць.

Перш за ўсё будучая дамова з "Газпрамам" не з'яўляецца нечым беспрэцэдэнтным. Яшчэ ў чэрвені сёлетняга года "Газпрам" і ўкраінскае акцыянернае таварыства "Укргазпрам" падпісалі пагадненне аб супрацоўніцтве ў пашырэнні і рэканструкцыі транзітных газаправодаў, якія праходзяць праз тэрыторыю Украіны. Яно будзе дзейнічаць да 2005 года.

Сістэма фінансавання будаўніцтва мае на ўвазе, што ў выпадку, калі адзін з бакоў часткова або цалкам не забяспечыць пералік сродкаў ва ўзгодненыя тэрміны, непрафінансаваная частка будаўніцтва будзе ажыццяўляцца другім бокам з прапарцыянальным павелічэннем долі ўласнасці.

У Беларусі таксама ёсць прыклад такога супрацоўніцтва — нафтагазавая кампанія "Слаўнафта". У яе ўваходзяць з расійскага боку аб'яднанні "Мегіаннафтагаз" і "Мегіаннафтагазгеалогія". Яны перадаюць у статутны фонд кампаніі па 38% сваіх акцый. 17,6% у статутным капітале кампаніі належаць беларускаму боку, які ўносіць у "Слаўнафту" каля 35% акцый Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода.

Працэс стварэння міжнародных карпарацый, якія працуюць па схеме "разведка-здабыча-перапрацоўка", не з'яўляецца чымсьці новым у сусветнай практыцы. Аднак на Беларусі пераважылі палярныя пункты погляду на гэты конт. З аднаго боку, гэта падносіцца як нацыянальная трагедыя, з другога — як вяршыня нацыянальнай эканамічнай думкі, што выяўляецца ў стварэнні так званых фінансава-прамысловых груп. Такія калізіі лёгка тлумачацца, калі перавесці спрэчку ў плоскасць эканомікі. Аднак неабходна невялікая рэмарка.

Супаставім два агульнавядомыя факты: наша запазычанасць Расіі за энергарэсурсы складае паўмільярда долараў; адначасова мы адчуваем цяжкасці са збытам прадукцыі беларускіх прадпрыемстваў, склады забіты непрададзеным таварам. Ці можам мы пагасіць сваю запазычанасць таварамі і калі не, дык чаму? Адказ можа быць двайны. Усёй гэтай прадукцыі недастаткова для пагашэння доўгу, яна каштуе танней за энергію, затрачаную на яе вытворчасць, — гэта значыць, наша прамысловасць у масе сваёй стратная. Другі варыянт — гэта прадукцыя каштуе больш, чым сума нашай запазычанасці, але яна непатрэбна Расіі.

Але калі яна непатрэбна Расіі з яе традыцыйна невысокімі спажывецкімі стандартамі, то каму яна спатрэбіцца, скажам, у Еўропе? А ў самой Беларусі яе можна прадаць? Калі не, значыць, нехта робіць тавары больш якасныя і таннейшыя і паспяхова з Беларуссю канкурыруе.

Атрымліваецца, што мы патрацілі паўмільярда долараў на вытворчасць тавараў, загадзя асуджаных на адсутнасць збыту. Вядома, я знарок утрырую. Але ўсё роўна ў дадзенай сітуацыі спробы "запусціць" вытворчасць сведчаць толькі пра тое, што ўрад наступае на адны і тыя ж граблі з пастаянствам, якое пагражае прывесці да сатрасення мозгу.

У той жа час нельга сцвярджаць, што эканоміка Беларусі сутыкнулася з праблемай, небывалай у гісторыі чалавецтва. Па дадзеных Асацыяцыі незалежных нафтаздабываючых кампаній Амерыкі, Злучаныя Штаты штодня імпартуюць больш за 7,5 мільёна барэляў нафты, альбо каля 50% штодзённага спажывання нафты ў краіне. Гэта, па дадзеных Міністэрства гандлю ЗША, азначае, што ў цяперашні час амерыканцы плацяць 150 мільёнаў долараў у дзень за імпартуемую нафту. Амерыканскія метады абароны ўласнага рынку для Беларусі не вельмі актуальныя, паколькі накіраваны галоўным чынам на стымуляванне там унутранай нафтаздабычы і носяць ярка выяўлены пратэкцыяністкі характар.

Іншым шляхам ішла Францыя. Сутыкнуўшыся з нафтавымі праблемамі ў сярэдзіне 70-х гадоў, яна знізіла долю нафты ў нацыянальным спажыванні энергіі шляхам яе замены вугалем, ядзернай і гідраэнергіяй. За шэсць гадоў доля нафты скарацілася на 24%.

Што да Беларусі, то ў цяперашні час яна стала буйнейшым імпарцёрам расійскай нафты. Тут мы выступаем на роўных з Вялікабрытаніяй і Германіяй, якія займаюць адпаведна другое і трэцяе месцы. Гучыць парадаксальна, але ўражанне такое, нібы беларускае кіраўніцтва адчувае такое вострае жаданне купляць танныя энергарэсурсы ў Расіі, што гатова выкласці за іх практычна любую суму.

І зноў аб фінансава-прамысловых групах. Працэс іх стварэння быў асуджаны на палітычную абструкцыю. Прычына простая — дагэтуль у Беларусі дзяржава з'яўляецца ўладальнікам "заводаў, газет, параходаў". Адсюль і глеба для абвінавачванняў у карупцыі і здрадзе. Быў бы, скажам, той жа "Белтрансгаз" уласнасцю прыватнай або, калі хочаце, "працоўнага калектыву", ён мог бы выбраць сабе прыемнага ва ўсіх адносінах партнёра ў любой краіне. У тым ліку і ў Расіі, чаму ж не? Плаціў бы тады "Белтрансгаз" разумныя падаткі ў дзяржбюджэт і браў бы з кліентаў плату на ўзроўні сусветных цэн або крыху ніжэй — з мэтай барацьбы з канкурэнтамі. А жадаючых умяшацца ва ўнутраныя справы кампаніі на прадмет распараджэння пакетам акцый адсылаў бы да вядомага раздзела заканадаўства.

Але паколькі Рэспубліка Беларусь пажадала асабіста гандляваць з прыватнай кампаніяй "Газпрам" ("ЛУКойл", "Гермес" і г. д.), то нічога не застаецца, як закончыць артыкул фрагментам з выдатнага рамана О'Генры "Каралі і капуста": "Параходная кампанія "Везувій" — вялікая сіла, якая заўсёды глядзела на рэспубліку Анчурыю з дакорлівай усмешкай і ўзнятым пальцам, пераконваючы яе, каб яна не дурэла і была паінькай. У гэтай арганізацыі было 12 сваіх параходаў, а капітал яе выяўляўся ў суме, крыху большай, чым увесь бюджэт Анчурыі — увесь яе дэбет і крэдыт"...

**Аляксандр МАМЕТАЎ,**
**эканамічны аглядальнік "ЛіМа"**

# Уладзімір КАЛЕСНІК

15 снежня, на 73 годзе жыцця, пасля цяжкай працяглай хваробы памёр вядомы пісьменнік Уладзімір Андрэевіч Калеснік.

Ён нарадзіўся 17 верасня 1922 г. у вёсцы Сіняўская Слабада Карэліцкага раёна Гродзенскай вобласці. У 1936 г. паступіў у Наваградскую гімназію, пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі працягваў вучобу ў Наваградскім педагагічным вучылішчы. З ліпеня 1941 г. прымаў удзел у стварэнні падпольных антыфашысцкіх арганізацый у верхнім Наднямонні. Улетку 1942 г. стаў партызанам — быў кулямётчыкам, падрыўніком, камандзірам узвода, начальнікам штаба атрада. Двойчы паранены. Пасля злучэння з часцямі Чырвонай Арміі працаваў у Мірскім райваенкамаце, настаўнічаў. Скончыў філалагічны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута, аспірантуру і абараніў кандыдацкую дысертацыю. З 1952 г. — загадчык кафедры літаратуры Бабруйскага настаўніцкага інстытута, з 1956 г. — загадчык кафедры беларускай літаратуры Брэсцкага педагагічнага інстытута, з 1988 г. — прафесар гэтай кафедры. Адначасова кіраваў Брэсцкім абласным літаратурным аб'яднаннем, з'яўляўся сакратаром абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі.

У. Калеснік валодаў глыбокімі ведамі, што вылучала яго як аднаго з вядучых вучоных-літаратуразнаўцаў і крытыкаў рэспублікі. Яго пяру належаць кнігі "Паэзія змагання: Максім Танк і заходнебеларуская літаратура", "Час і песні", "Зорны спеў", "Ветразі Адысея: Уладзімір Жылка і рамантычная традыцыя ў беларускай паэзіі", "Максім Танк: Нарыс жыцця і творчасці", "Лёсам пазнанае. Выбраныя літаратурныя партрэты", "Тварэнне легенды", "Янка Брыль: Нарыс жыцця і творчасці", "Усё чалавечае". Ён адзін з аўтараў "Гісторыі беларускай савецкай літаратуры", "Истории советской многонациональной литературы", а таксама вучэбных дапаможнікаў і падручнікаў для педінстытутаў і універсітэтаў. Напісаў дакументальныя творы "Аповесць пра Таўлая", "Пасланец Праметэя", сумесна з Алесем Адамовічам і Янкам Брылём стварыў кнігу "Я з вогненнай вёскі..." Для У. Калесніка было характэрна шырокае кола творчых і навуковых інтарэсаў: літаратура, мова, фальклор, бягучае літаратурнае жыццё. Шмат зрабіў ён у справе даследавання і папулярызацыі літаратуры былой Заходняй Беларусі, вывучэння ролі літаратуры ў станаўленні нацыянальнай свядомасці беларусаў і ідэалогіі нацыянальнага адраджэння ў 19-20 стагоддзях. На рабочым стале пісьменніка засталіся няскончаныя кнігі пра беларускую літаратуру апошняга часу, пра сваё баявое партызанскае юнацтва. Яго творчасць як даследчыка, публіцыста, літаратурнага крытыка адзначана Дзяржаўнай прэміяй Беларусі імя Якуба Коласа, Літаратурнай прэміяй Саюза пісьменнікаў імя Івана



Мележа. Яму нададзена ганаровае званне заслужанага работніка вышэйшай школы Беларусі. Неацэнны яго ўклад у падрыхтоўку педагагічных і навуковых кадраў.

Уладзімір Калеснік заўсёды заставаўся патрыётам, верным сынам Бацькаўшчыны.

Светлы вобраз Уладзіміра Андрэевіча Калесніка, чалавека абаяльнага, удумлівага, прынцыповага, назаўсёды застанецца ў памяці суайчыннікаў, ягоных сяброў і блізкіх.

**У. Русакевіч, А. Бутэвіч, В. Стражаў, У. Заламай, Р. Барадулін, Я. Брыль, В. Быкаў, Н. Гілевіч, П. Панчанка, М. Танк, І. Чыгрынаў, І. Шамякін, В. Адамчык, С. Андраюк, Г. Бураўкін, А. Вярцінскі, А. Гардзіцкі, М. Гіль, У. Гніламёдаў, Г. Далідовіч, А. Дудараў, А. Жалязоўскі, А. Жук, В. Жуковіч, С. Законнікаў, В. Зарэцкая, В. Зуёнак, В. Каваленка, В. Казько, А. Каско, Я. Крамко, А. Кудравец, А. Лойка, А. Майсейчык, А. Мальдзіс, Н. Мацяш, І. Навуменка, У. Някляеў, У. Паўлаў, А. Пісьмянкоў, М. Пракаповіч, І. Пташнікаў, А. Разанаў, Б. Сачанка, Я. Сіпакоў, В. Сцепановіч, В. Супрунчук, М. Тычына, У. Ягоўдзік.**

# ЯГО АПОШНІ ЛІСТ

***У канцы лістапада я атрымаў ліст ад Уладзіміра Андрэевіча Калесніка. Ліст, як і заўсёды раней ў Яго, — змястоўны, шчыры, сяброўскі, у якім — такі знаёмы Ён: заклапочаны, сур'ёзны, прынцыповы, мужны Чалавек і Грамадзянін з вялікай літары. Рашыў, што я напішу ў адказ таксама па магчымасці грунтоўна і пастараюся сказаць яму шмат добрага. Так захацелася сказаць яму шмат добрага!.. Але збіраўся на некалькі дзён у камандзіроўку, іншых неадкладных спраў было навалам, — і падумаў: зраблю гэта крыху пазней, вярнуўшыся з дарогі, каб не наспех... Пачуў, што едзе праведаць сябра Янка Брыль, папрасіў: перадай Уладзіміру Андрэевічу прывітанне і скажы, што я прышлю яму неўзабаве вялікі грунтоўны ліст... І так жа горка пралічыўся, так горка, што проста не магу дараваць сабе. Ліста так і не паспеў напісаць Яму, а паехаў у Брэст на балючае развітанне з ім. Сказаць Яму апошняе бывай і даруй.***

***А Ягоны ліст, напэўна, адзін з самых апошніх Яго лістоў наогул, — для мяне і для іншых Яго паплечнікаў ужо як бы і завяшчанне: змагайцеся, сябры! Працуйце чорнарабочымі і змагайцеся! За вольную, незалежную Бацькаўшчыну!.. За тое, за што мы з магаліся разам!..***

*Ніл ГІЛЕВІЧ*

Дарагі Ніл Сымонавіч!

Рады быў атрымаць заданне ТБМ з Тваім подпісам, прыемна чуць, што наша самая гуманітарная і чыста духоўная арганізацыя скіроўвае свае сілы на парламенцкія выбары. Смуткую толькі, што здароўе не дазволіць мне прыняць удзел у гэтым мерапрыемстве як бы належала, змагу толькі ўздзейнічаць на выкладчыкаў, пісьменнікаў і студэнтаў, якія мяне наведваюць у бальніцы, бяруць кансультацыі па дысертацыях, дыпломных працах, фальклорнай практыцы. Але на студэнтаў я маю не малы ўплыў, нядаўна правялі без мяне прэзентацыю маёй кнігі "Усё чалавечае", дык выступіла больш 20 чалавек. Адным словам, філфак Берасцейскага педінстытута будзе галасаваць за кандыдатаў ТБМ, і не толькі філфак, але і многія настаўнікі з горада і перыферыі. Разумею, што гэтага мала, але што зробіш? Цяпер маё жыццё дагарае і праходзіць па графіку дажывання: два месяцы ў бальніцы і два тыдні дома. У бальніцы ўсё пад капельніцамі ды на іншых працэдурах, а дома пэўны адпачынак.

Але выкройваю крыху часу, каб хоць сёе-тое пісаць. Працую зараз на дапрацоўцы сваёй кнігі пра Жылку, пры выданні яе абрэзалі на 2 аркушы, акрамя таго і многа там ідэалагічных балванак для таго, каб падмануць цэнзуру ці рэдактара. Многа новых матэрыялаў патрэбна ўключыць, адным словам, ажывіць "Ветразі Адысея". Да 70-годдзя мне прапанавалі выдаць выбранае, але я прынёс рукапіс "Усяго чалавечага", а замест выбранага перавыдаць кніжку пра Жылку. Цяпер гэта, відаць, цяжкая справа, а што будзе далей — адзін Бог ведае ды Лукашэнка.

З вялікай прыемнасцю і патрыятычнай гордасцю сустракаю ўсё, што выходзіць з-пад Твайго пяра і з вуснаў трыбуна. Прыгадваю, што ляжыць у мяне рукапіс пра Тваю творчасць на 120 с. машынкі. З яго выбрана было для "Полымя" і надрукавана палавіна. Хочацца папрацаваць над ім, але не ўпэўнены, што хопіць мне сілы папрацаваць, а не сапсаваць. А як падумаю, што з тых часоў Ты столькі зрабіў новага ў паэзіі і ў публіцыстыцы, то зусім апускаюцца рукі. Захапляюся Тваімі прамовамі ў абарону мовы нашай ад шальмавання рознымі прыездлжымі прафанамі і тэарэтыкамі славянскіх ці расейскіх саюзаў і вечаў. Не хапае ў нашай прэсе чорнарабочых, якія б прафесійна як гуманітарнікі выкрывалі і крытыкавалі нахабных цемрашалаў, што ўзводзяць у святасць брахню дарэвалюцыйных чарнасоценцаў, якія за адмаўленне нашай мове самабытнасці нажывалі чыны і званні. Іх ніхто не лічыў вучонымі, пасміхаліся ў кулак, а сёння — ура! І чарнасоценцы лічаць іх вучонымі, і многія нашы таксама апускаюць рукі і не ідуць у спрэчкі. Хацеў бы я папрацаваць такім чорнарабочым выкрывальнікам, каб тая сіла...

Сардэчна ўдзячны за падмогу. Абнімаю

**У. КАЛЕСНІК**

**Калектыў рэдакцыі і рэдакцыйная калегія часопіса "Полымя" смуткуюць з прычыны смерці выдатнага беларускага пісьменніка, нашага актыўнага аўтара і члена рэдкалегіі КАЛЕСНІКА Уладзіміра Андрэевіча і выказваюць глыбокае спачуванне яго сям'і і блізкім.**

# НА РАЗВІТАННЕ

*Уладзіміру Андрэевічу КАЛЕСНІКУ*

**Лёсам падбіты,
словам абхаяны,
я каля Сябра
ў адчай не ўпадаў...
Зося Міхайлаўна,
Зося Міхайлаўна,
дома — ці дома? —
сам пан гаспадар?
Сёння — няма...
затрымаўся за горадам.
Вечнасць аблокі праносіць над ім.
Ветрана ў свеце.
Маркотна і холадна
мне, яго вучню, і вучням маім.
Молада жыў, для сяброў не старэючы,
і адыходзіў душой малады.
Уладзімір Андрэевіч,
Уладзімір Андрэевіч,
снегам балючым упалі гады!
Толькі пад небам птахамі кружацца
думы прарочыя, жалі і сны.
Хай не засцюжыцца,
хай не засцюжыцца
шлях беларускі да волі-вясны!
Бачу нашчадкаў натхнёных,
ускрыленых,
хоць вачэй у слязах я
не падыму...
Маці-зямля!
Беларусь Скарынаўна,
цёпла хай будзе
сыну твайму!**

**Алесь КАСКО**

# МЫ ПЛАЧАМ...

**Уладзімір Андрэевіч, даруйце
Нам нашы слёзы:
Слёзы цягнуць долу,
А Вы заўжды былі на вышыні,
Ваяр Асветы, Рыцар светлыні.
Мы плачам, бо нічога не зьначым.
Вас не вярнуць сюды, у нетры гліны.
Душа Ваша атрэсла ўжо яе.
Дзесь азірае сцежачкі свае.
Хай Бог даруе ёй усе правіны.
Хай будзе шлях далейшы беспакутны.
Бывайце. Можа, й стрэнемся яшчэ.
Хай толькі Вас, як нас, боль не пячэ...**

**Ніна МАЦЯШ**

# ВЕЦЕР ВАНДРАВАННЯЎ

Каб любіць Беларусь нашу мілую,
Трэба ў розных краях пабываць.



**Гэтых мазырскіх дзяцей аб'яднала любоў да падарожжаў. Вось і стварылі яны спартыўна-турыстычны клуб "Дрыгавічы". Восем гадоў кіруе ім Аляксандр Капусцін, чалавек захоплены і энергічны. Яго стараннямі члены клуба змаглі пабываць на Эльбрусе, у Карэліі, у Грузіі. Мазырскія турысты прайшлі рознымі маршрутамі ад Карпат да Камчаткі.**

**Члены клуба "Дрыгавічы" вынайшлі нямала прыстасаванняў, якія паляпшаюць няхітры быт турыстаў. Нядаўняя, напрыклад, распрацоўка — разборная паходная лазня, якая манціруецца ў палатцы ўсяго за 15 хвілін.**

**І хоць да лета далёка, але ўжо мараць дзеці пра новыя маршруты. Пра іх і ідзе гаворка ў кіраўніка клуба "Дрыгавічы". Аляксандра Капусціна і яго маладых сяброў братоў Аляксея і Дзмітрыя Дзянісенкаў (на здымку).**

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛІНФАРМ*

# ШТО ВЫХАВАЕМ?



**Мерапрыемства гэта адбылося днямі: выбраным гасцям урачыста было абвешчана пра стварэнне Клуба прыхільнікаў мастацтва. Сам клуб пакуль больш на паперы, прынцыпы яго дзейнасці не канкрэтызаваны, затое першая акцыя ўжо праведзена. Наладзілі яе таварыства "Валатынь", якое прадстаўляла супрацоўніца Беларускага фонду культуры Ірына Радзевіч разам з загадчыкам кафедры мастацтвазнаўства Беларускай акадэміі мастацтваў, прафесарам Міхасём Раманюком, і Рэспубліканскі культурна-асветніцкі цэнтр Упраўлення справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (пры падтрымцы Беларускага фонду культуры і нафтавай карпарацыі "Белслаўнафта").**

**Мерапрыемства было арганізавана вельмі рэспектабельна: выдатна аддрукаваныя запрашэнні і праграмкі-праспекты таварыства "Валатынь", правяраючыя на ўваходзе, ахова залы, канцэрт, у якім удзельнічаў нават В. Скорабагатаў, пасля — нязменнае шампанскае. Прайшла выдатная выстава аднаго дня дзесяці вядучых беларускіх мастакоў, імёны якіх былі ўхвалены калёквіумам мастацтвазнаўцаў.**

**Усе будучыя сустрэчы, вечарыны мяркуюцца не столькі звыклым прадстаўленнем беларускай альбо "мульці"-культуры Беларусі, найперш — дзеля выхоўвання густу і разумення культуры, мастацтва ў будучых патэнцыяльных і, на жаль, пакуль адзіных у цяперашніх умовах пакупнікоў — людзей бізнесу. Для іх запланаваны шматлікія сустрэчы з асобнымі мастакамі, агульнапазнавальныя (усё, што датычыць прафесійнай культуры рэспублікі) нетрадыцыйныя экскурсіі, азнаямленне з музеямі пры дапамозе кампетэнтных экскурсаводаў. "Валатынь" прапануе любыя паслугі, якія аблегчаць працэс куплі і афармлення дакументаў на мастацкія каштоўнасці, паслугі дызайнераў, архітэктараў, нават гувернераў з культуралагічным ухілам. Зрэшты, усе мажлівыя прапановы — тым, хто ў стане ўкласці ў культуру хоць нейкія грошы.**

**На жаль, клуб мяркуецца зрабіць закрытым і абвешчаны ён элітным. Пэўна, іншым ён і быць не можа, бо — хто ў нас можа паўдзельнічаць у такой праграме? Але ж ці не будзе гэта стварэннем праслойкі грамадства, для якой азначэннем элітнасці стануць менавіта грошы?**

**Н. Ш.**

## "Я ПОЛЬСКІ ПАТРЫЁТ БЕЛАРУСІ"



Гэтыя словы належаць перакладчыку беларускай літаратуры на польскую мову Чэславу Сенюху. Наша сустрэча з ім адбылася ў Пасольстве Рэспублікі Беларусь у Варшаве. Ён прыходзіць сюды часта, каб абмеркаваць зробленае, пачуць думку аб чарговым перакладзе.

Прычынай для сустрэчы паслужыла тая абставіна, што Чэслаў Сенюх працуе цяпер над перакладам на польскую мову паэмы Я. Коласа "Новая зямля". Чэслаў чытаў першыя раздзелы, і я дзівіўся іх сугучнасці знаёмым коласаўскім радкам:

"Краю родзинны сэрцу милы!
Запомнець цебе не мам силы!..

Меладычнасць верша Коласа надзіва лёгка лягла на польскую. У гэтым і заключаецца, відаць, талент перакладчыка — дамагчыся дакладнасці арыгінала, не парушаючы вершаванага рытму. Вядома, галоўнае тут — выдатнае веданне беларускай мовы.

Нарадзіўся Чэслаў Сенюх у 1930 годзе ў Любчы, на Гродзеншчыне. Бацькі ведалі польскую, украінскую і беларускую мовы і любоў да іх выхоўвалі ў сына. Потым Чэслаў вывучыў рускую і беларускую мовы ў час вучобы ў беларускай школе. Веды гэтыя, як бачым, спатрэбіліся.

Свой першы пераклад Чэслаў Сенюх зрабіў у пачатку дзевяностых гадоў. Гэта быў "Прарок" Я. Купалы. Потым былі "Хуткі Нёман" Я. Брыля, "Хрыстос прызямліўся ў Гародні" У. Караткевіча, "Аблава" В. Быкава, творы М. Танка, В. Зуёнка, У. Арлова. І вось, нарэшце, "Новая зямля". Работа складаная не толькі па аб'ёме. Трэба здолець перадаць асаблівасці аўтарскай мовы Коласа, яе каларыт, народнасць.

**Яўген КАЗЮЛЯ, БЕЛІНФАРМ**

*На здымку: Чэслаў Сенюх — перакладчык беларускай літаратуры на польскую мову.*

*Фота аўтара.*

## СПЯВАЙЦЕ, ЮНЫЯ ПАЭТЫ!

Жыццё не церпіць масак... Такім быў лейтматыў чарговага пасяджэння літаратурнага аб'яднання "Восьмая вышыня".

Узнікла аб'яднанне не так даўно. Калыскай яго стаў філфак БДУ. Чаму назвалі "Восьмая вышыня"? Старшыня Віталь Пятроўскі адказаў так: "Існуе сем колераў вясёлкі, сем нот у гаме. А нам хацелася стварыць нешта новае: восьмую ноту ў гаме, восьмы колер вясёлкі, стварыць... восьмы цуд свету".

9 снежня моладзь правяла сваю першую вечарыну. Яна праходзіла ва універсітэцкім кафэ ў атмасферы цеплыні і добразычлівасці. Маладыя таленты чыталі свае вершы. Шчыра і пранікнёна гучалі творы Вадзіма Філіповіча, Віктара Казюліна, Алеся Даменікана, Віталя Пятроўскага і іншых. Даспадобы былі ўдзельнікам вечарыны і песні пад гітару.

У гэтых хлопцаў і дзяўчат шмат задум на будучае. Хутка яны збіраюцца на Магілёўшчыну, у Клімавічы, на сустрэчу з мясцовай інтэлігенцыяй і студэнтамі тэхнікума. Што ж, застаецца пажадаць ім плённай працы:

Спявайце, юныя паэты!
Спяліце ў бурах пачуцця
Неўтаймаваны боль планеты
Непераможны крык жыцця!

Наталля ВОЛЬСКАЯ

# БЯДУЛЯ, або ЗГУБЛЕНЫ КЛАСІК

Вінцук КАВАЛЕНКА

ЗВЫКЛАЕ ўспрыманне Бядулі: так, класік... І ўсё ж недзе "ззаду" Купалы, Коласа, Багдановіча (застаецца дадаць, што і Багдановіч не так даўно быў "ззаду" Купалы і Коласа). "Імя Бядулі **тады** (падкрэслена намі, — **В. К.**) называлі адразу за імёнамі Янкі Купалы і Якуба Коласа", — піша В. Вольскі, успамінаючы 30-я гады. Гэта, на думку аўтара, павінна было гучаць камплімeнтам пісьменніку.

І сапраўды, месца, якое займае ў гісторыі беларускай літаратуры спадчына Змітрака Бядулі, уяўляецца хаця трывалым, але даволі сціплым. Тут усё было як бы канчаткова вырашана ў 60-я гады, калі з'явіліся манаграфіі М. Смолкіна і В. Каваленкі з характэрным для "адліжных" гадоў падыходам да творчасці пісьменніка, якая ніяк не хацела "ўціскацца" ў вузкія рамкі "рэвалюцыйнага дэмакратызму". Бядуля, як і Купала, і Багдановіч, "аддаў дань дэкадэнцтву", але "пераадольваў упадніцкія настроі", "ішоў да рэалізму", праўда, на гэтым сваім шляху часам "няправільна" ўспрымаў гістарычныя падзеі (і перш за ўсё — кастрычнік 1917 года). Пачынаючы ж недзе з сярэдзіны 20-х, ён перажыў "працэс перабудовы" (М. Смолкін) і нарэшце трывала заняў "правільную жыццёвую пазіцыю", якая дыктавалася "рэвалюцыйнай ідэалогіяй" (В. Каваленка).

Што ж, не ўпершыню даводзіцца сутыкацца з сітуацыяй, калі таго ці іншага пісьменніка "баранілі" ад вульгарнага сацыялагізму, "цягнучы" да рэалізму, пажадана "сацыялістычнага". Ды бяда ў тым, што на гэтым наша ідэалагізаванае літаратуразнаўства і спынілася. "Ячэйка" для творчай спадчыны вельмі і вельмі своеасаблівага, неардынарнага мастака была знойдзена.

Высветлілася, што даследчыкаў не надта хвалявала тонкая, імпрэсіяністычная лірыка Бядулі, а таксама яго вершы ў прозе. Куды больш увагі надавалася творам рэалістычнага напрамку, дзе ўсё было прасцей і... адназначней. Так патрабавала канцэпцыя "суцэльнага рэалізму" беларускай літаратуры. Цікава, што часам нават асоба пісьменніка ва ўспрыманні крытыкаў як бы распадалася на дзве няроўныя часткі: Ясакар (адзін з псеўданімаў Бядулі) — паэт з "дэкадэнцкімі" матывамі, Бядуля — празаік-рэаліст, прычым "Бядуля ўсё больш і больш засланяе Ясакара", як пісаў у 1928 г. Ю. Бярозка. У выніку і сёння для многіх Бядуля застаецца аўтарам "Салаўя", "Сярэбранай табакеркі" і "Язэпа Крушынскага". Паказальна, што ў 1986 годзе, годзе сціплага святкавання 100-годдзя з дня нараджэння пісьменніка, аўтары нешматлікіх артыкулаў аб ім у літаратурных часопісах і газетах (М. Стральцоў, А. Рагуля) пераважна звярталі ўвагу на праблемы мастацкай прозы. Здаецца, меў рацыю У. Дзяржынскі, калі яшчэ ў 20-я пісаў: "Калі скупая і няласкавая наша літаратурная крытыка ў адносінах да беларускага пісьменства наогул, то ў адносінах да творчасці Бядулі-Ясакара гэтая няшчодрасць дасягае свайго вышэйшага пункту".

Мала таго, аўтар "Ярылы" і "Палескіх баек", пісьменнік, які, што называецца, душу палажыў на вывучэнне народнай творчасці ад часоў паганства да сучаснага фальклору, які як ніхто ведаў жальбы і турботы беларускай вёскі, яе жывую мову, часта аб'яўляўся... небеларускім. Заканамерна ўзнікае пытанне — у чым жа прычына гэтага дзівоснага парадокса?

Па-першае, мабыць, мелася на ўвазе нацыянальнасць Бядулі-Плаўніка (па сведчанні некаторых біёграфаў — Шмуэл-Нохіма). Маўляў, прыналежнасць паэта да яўрэйскай нацыі і зрабіла адбітак на яго творчасць, далёкую ад "праўдзіва беларускай". Але, цікава, што было б, калі б на гэтай падставе літаратура-суседка адмовілася б ад Мандэльштама ці, скажам, Гросмана? Мусіць, меў рацыю У. Караткевіч, калі горка іранізаваў у "Чорным замку Альшанскім": хіба ад уласнай беднасці беларусы ўсё сваё лепшае аддаюць іншым...

Па-другое, творчая індывідуальнасць Бядулі відавочна дрэнна ўпісвалася ў загадзя падрыхтаваную "неистовыми ревнителями" чысціні беларускага рэалізму схему. "Тэмперамент паэта" (аб ім пісалі А. Навіна, Я. Карскі), моцны суб'ектыўна-лірычны пачатак зноў-такі на агульным фоне "масавасялянскай" лірыкі мусіў быць прызнаны "небеларускім". І чытачу сталі паступова даводзіць, што "вершы ў Бядулі — слабейшыя за яго мастацкую прозу".

На наш погляд, своеасаблівасць, непаўторнасць Бядулі-мастака якраз і выяўляецца ў спалучэнні дзвюх духоўных сістэм, двух светаадчуванняў: мудрага старажытна-біблейскага пачатку і свежага дыхання беларускага Адраджэння. Сучасны даследчык Я. Дабрэнка піша: "Ужо многія стагоддзі яўрэйская культура працягвае вялікі подзвіг самарастварэння, асіміляцыі і культурнага апладнення іншых культур — XX стагоддзе вялікі таму доказ".

Гэтую якасць Бядулевай творчасці выдатна адчуў Я. Колас, які ў лірычнай мініяцюры пад назвай "Кучаравае дрэва" даў алегарычны партрэт пісьменніка. "Дваістым жыццём жыло Кучаравае дрэва", — адзначае Колас. І далей, у адказ на папрокі сваякоў, што яно чужым аддае свой песенны дар, Кучаравае дрэва гаворыць: "Ну што ж. Так сталася. Я тут вырасла. Сокі гэтай зямлі, куды ўрасло маё карэнне, пераліліся ў сэрца маё і ў думкі мае, і гучаць яны ў песнях маіх..."

Дзіўная абыякавасць да спадчыны пісьменніка, замоўчванне многіх яго твораў прывялі да сумнага выніку: мы не ведаем "сапраўднага" Бядулю, няздольныя прасачыць эвалюцыю і дыялектыку яго творчасці. Перад намі як бы апынулася адначасова тры Бядулі: адзін — паэт-"пачатковец", аўтар таленавітых "Абразкоў" з іх яўнай цягай да містыкі і ідэалізму, але і з "цягай да рэалізму" ў дакастрычніцкіх апавяданнях, другі — заўзяты "нацдэмавец" нашаніўскага толку, апалагет тэорыі бяскласавага грамадства на Беларусі і вораг бальшавізму, трэці — прыхільнік гэтага самага бальшавізму, "сацыялістычны рэаліст", прапагандыст вучэння Леніна-Сталіна... Няпростая сувязь паміж гэтымі іпастасямі творчага аблічча пісьменніка, і няпроста яе прасачыць.

Бядуля пачынаў значна пазней за Купалу ці Коласа, і на пачатку творчага шляху яго напаткала першая сусветная вайна. Яна абвастрыла трагічныя бакі светапогляду маладога мастака, прымусіла заглыбіцца ў філасофскія аспекты жыцця і смерці чалавека, шукаць Бога на зямлі і ў людзях. Вельмі рана вылучаецца і асэнсоўваецца гуманістычны пачатак у творчасці пісьменніка: спачуванне і спагада да простых людзей, што пакутуюць і канаюць за чужыя грахі. Асобныя творы Бядулі набываюць сацыяльна-выкрывальнае адценне, хаця, зразумела, "рэвалюцыйнымі" іх назваць нельга. У сваіх поглядах Бядуля відавочна цягацеў да асветніцтва, што выразна відаць па яго шматлікіх і маладаследаваных публіцыстычных творах. Усё гэта збліжала яго з "Нашай Нівай", а пасля рэвалюцыі — з газетамі "Вольная Беларусь" і "Беларускі шлях", выданнямі таксама агульнанацыянальнага напрамку.

Не так даўно творчасць таго ці іншага мастака звыкла рассякалася на дзве часткі: "дакастрычніцкую" і "паслякастрычніцкую". Калі ўжыць гэты штучны падзел у адносінах да Бядулевай спадчыны, то ад пачатку свайго творчага шляху і прыкладна да 1992 года Бядуля — "дакастрычніцкі". Гэта перыяд станаўлення і развіцця мастацкага майстэрства, светапоглядных і эстэтычных асноў. Яго як бы завяршае лепшы паэтычны зборнік пісьменніка — "Пад родным небам" (1922). Гады з 1918 па 1922 былі надзвычай плённыя для пісьменніка. Гэты перыяд, які паслякастрычніцкая крытыка бессаромна ахарактарызавала як "глыбокі ідэйна-творчы крызіс" (В. Івашын), быў, па сутнасці, "зорным часам" Бядулі-паэта. Яго грамадскія і эстэтычныя ідэалы набываюць выразнасць і акрэсленасць, паглыбляецца філасофскае асэнсаванне з'яў рэчаіснасці, расце майстэрства. Гэта ўвасобілася ў вершах і паэмах згаданага зборніка.

Паміж ім і наступнай кніжкай — "Буралом" (1925) — прорва. Гэтыя гады і сталі часам "пералому", як пісалі крытыкі, а дакладней — надлому ў жыцці і творчасці паэта. Ад філасофска глыбокіх, мастацка дасканалых вершаў і імпрэсій — да штампаванай рыторыкі, ад тэасофскіх напружаных пошукаў — да апантанага атэізму, ад цудоўных пейзажных замалёвак — да сумна вядомай "каляндарнай" паэзіі. Што дакладна перажываў і адчуваў Бядуля ў гэты перыяд — невядома, але захапленне "новым жыццём" насіла ў яго нейкае нервовае, ліхаманкавае адценне. Груваздзяцца цыклапічныя вобразы, захліпаецца рытм вершаў... Потым, калі ўсё "ўляглося", ён знешне пражывае спакойныя і нават шчаслівыя гады: Бядуля — прызнаны майстар мастацкага слова, кавалер ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга (у 1939 г.), настаўнік паэтычнай моладзі... Аб тым, што адбывалася ў душы паэта, можна толькі здагадвацца па асобных дэталях, штрыхах. "Як быццам бы ў пісьменніка ўсё складвалася ў жыцці ўдала, а ён у тыя гады здаваўся мне нязвыкла сумным", — піша ў сваіх успамінах М. Таўбэ. Аб сустрэчы Бядулі з вядомым літаратурным "пагромшчыкам" Л. Бэндэ ўспамінае П. Пруднікаў: "Дастаткова было яму толькі ўбачыць гэтага чалавека, як ён адразу рабіўся хмурым, прыгнечаным, як быццам бы пачуў нейкую непрыемную вестку.

— Страшны гэта чалавек, — гаварыў Бядуля. — І як толькі яго зямля трымае?!

Так, прафесія літаратара ў 30-х гадах ужо была небяспечнай. У канцы бядулевага зборніка нарысаў "Дзесяць" (1930) змешчаны "Апытальнік" для чытачоў, які належала дасылаць у выдавецтва. Сярод пытанняў ёсць і такія: "4. Ці патрэбны гэты твор у нашыя часы сацыялістычнага будаўніцтва (ці адлавядае эпосе, ці арганізуе волю для ўпартае творчае працы і г.д.)?.. 7. Ці няма фальшы ў абмалёўцы тыпаў і апісаных у творы падзей? Калі ёсць, дык у чым яна?" Па сутнасці чытачу, часта недасведчанаму ў літаратуры, прапаноўвалі вырашыць лёс пісьменніка (і не толькі творчы)...

Так, яму было наканавана перажыць шмат крыўд і несправядлівасцей, і адна з іх тая, што яшчэ пры жыцці яго аказалася напаўзабытай багатая лірычная спадчына Бядулі-Ясакара.

Першае і непасрэднае ўражанне ад паэзіі Змітрака Бядулі — магутнасць і бязмежнасць лірычнай плыні, яе ўсюдыіснасць, калі можна гэтак сказаць. Мы разам з аўтарам трапляем у свет, дзе "згубіла зарніца чырвоную хустку На начным вясёлым гулянні", дзе "на раніцу з неба пакралі ўсе зоркі", дзе "на лісцях кляноў запаліліся кроплі", а бярозы "смуглеюць ува сне". Бядуля нязменна імкнецца да ёмістай, дакладнай, "зямной" метафары:

**...І бусел узняўся. Шырокія крыллі**
**Гарэлі у небе сваёй белізной.**

"Цябе вякі, як мумію, спавілі", — гаворыць паэт аб Беларусі, літаральна адным радком ствараючы паэтычны твор.

З лёгкай рукі крытыкі 30-х гадоў дакастрычніцкая творчасць Бядулі, асабліва вершы і імпрэсіі, лічыцца блізкай да рускага сімвалізму. Але кідаецца ў вочы, што па канкрэтным мастацкім напаўненні вершаў, па тых паэтычных прыёмах, якія ўжывае пісьменнік, ён у многім збліжаецца з акмеізмам. Як вядома, гэтая літаратурная плынь з'явілася ў 1913 годзе і дэкляравала дакладнасць і меру ў апісаннях, яснасць і прастату мастацкага слова. З Мандэльштамам, напрыклад, пераклікаецца Бядуля ў тэме зорак. У вершы рускага паэта:

* *У поўным выглядзе артыкул мае быць надрукаваны ў часопісе "Маладосць."*

**...Что если над модной лавкою**
**Мерцающая всегда,**
**Мне в сердце длинной булавкою**
**Опустится вдруг звезда?**

У беларускага ж паэта з'яўленне зоркі на небасхіле апісваецца так:

**Нібы ў полі з аксаміту —**
**У няясныя блакіты**
**На здзіўленне уткнулі лоўка**
**Шпільку з залатой галоўкай.**

Калі б размова ішла аб асобных перакрыжаваннях тэм і вобразаў паэзіі Бядулі з паэтыкай акмеізму, наўрад ці мела б сэнс гаварыць аб гэтым падрабязна. Але імпрэсіяністычныя, "рэчава" напоўненыя, заземленыя мастацкія вобразы літаральна перапаўняюць лірыку беларускага паэта. І гэта сапраўды стварае ўражанне нейкага свята прыроды, першаадкрыцця свету: "Ноч у кажуху туманным", "Дзве мільганулі папяроскі — Воўчы вочы", "Хвоі ў белых хвастах з гарнастаю", "Ноч мільгае вялізнаю рыбай", "Вецер доіць малако са стрэх", "Ноч насунула на лес Чорную папаху". Па сутнасці лірыка Бядулі-Ясакара — гэта неперарыўны гімн роднай прыродзе, пець які аўтар ніколі не стамляецца.

Не думаем, што Змітрок Бядуля на працягу свайго творчага шляху пастаянна і асэнсавана арыентаваўся на эстэтычна-паэтычную канцэпцыю акмеізму. Проста яна найбольш адпавядала яго творчаму індывідуальнаму почырку, яго эмацыянальнаму ўспрыманню акаляючага свету.

Трэба памятаць, што пры дэкларацыйным адмаўленні сімвалізму акмеізм у многім з'явіўся яго нашчадкам і нават вучнем: і ў праблеме мастацтва і жыцця, пераемнасці культурнай спадчыны, і ў карыстанні фальклорнымі крыніцамі, і ў "чыста тэхнічных" прыёмах. Няма нічога дзіўнага, што ў паэтычнай свядомасці беларускага пісьменніка гэтыя плыні маглі суіснаваць і пераклікацца.

Ужо ў ранніх творах Бядулі можна заўважыць прысутнасць лірычнага героя, індывідуальнай асобы, якой часта бракавала беларускай паэзіі пачатку XX стагоддзя, што пісалася ў асноўным як бы ад імя бязлікага, "масавага" селяніна. Дарэчы, у 30-я гады ў віну пісьменніку якраз і ставілася тое, што ў яго творах "паасобныя адзінкі" пераважаюць над "масамі".

**Нібы мяккія валокны,**
**Нібы цень густых кустоў,**
**Змрокі цэдзяцца праз вокны**
**На мой стол...**

Пры відавочнай арыентацыі на фальклор паэт ужо асэнсоўвае сябе як творчую асобу, якой трэба нешта большае, чымсьці простыя радасці сялянскага жыцця: "Як толькі вырас я з сваёй зрэбнай кашулі, майму сэрцу цесна зрабілася ў грудзях і душы ў целе". Гэта ўжо тая "высокая хвароба", калі чалавек асэнсоўвае сябе прызваным на вялікую ахвяру служэння Красе і адмовіцца ад яго, нягледзячы на непазбежныя страты і мукі, ужо не можа. "Занадта ты чулы, дзяцюк!" — гэта да сябе, да сваёй душы творцы звяртаецца Бядуля ў імпрэсіі "Акорды".

Ва ўсякім выпадку беларускі пісьменнік аказваецца вельмі далёкім ад той сціплай ролі "адлюстраваццеля жыцця", якую адводзілі яму даследчыкі. Невыпадкова Ц. Гартны падмеціў у маладым супрацоўніку "Нашай Нівы" "ганарлівасць годнасцю паэта". Мастак творыць Красу, а Краса — той адзіны Бог, якому належыць пакланяцца ў жыцці — да гэтай думкі Бядуля не толькі прыходзіць, але са здзіўляючай настойлівасцю, нават запалам даводзіць яе чытачу зноў і зноў.

У 1926 годзе ўжо сталы пісьменнік робіць характэрнае прызнанне ў адным з аўтабіяграфічных вершаў:

**Як пчала на салодкія кветкі,**
**Я кідаўся на мёд — за красой.**
**Я спяваў ля сялянскай паветкі,**
**Аздаблёнай жамчужнай расой.**

Сёння ўжо ясна, што сімвалізм — гэта зусім не той страшны жупел, на якога валілі ўсе грахі "змрочнага дэкадансу". Сама прыналежнасць да гэтага напрамку хаця б асобных рыс творчасці таго ці іншага пісьменніка ўжо з'яўлялася вялікай заганай, і ад гэтага ў свой час моцна пакутавала спадчына Купалы і Багдановіча. Болей таго, яшчэ з часоў "Нашай Нівы", лічылася, што ў беларускай літаратуры "не можа быць мадэрнізму". Таму роля магутнай літаратурнай плыні, яе ўплыў на беларускую паэзію амаль не вывучаліся. Ні ў нашым, ні ў рускім літаратуразнаўстве, на жаль, да гэтага часу не створана навуковых прац, у якіх поўна і рознабакова даследавалася б гэтая надзвычай цікавая і супярэчлівая плынь, якая, дарэчы, не зводзіцца ні да дэкадэнцтва, ні да мадэрнізму. Не вывучаны філасофскія вытокі сімвалізму, яго эстэтычныя прынцыпы, мастацкія асаблівасці. Ды і самі сімвалісты яго разумелі па-рознаму (успомнім хаця б перапіску А. Блока і А. Белага).

І ўсё ж сучаснае літаратуразнаўства адзінадушнае ў тым, што сімвалізм прадказаў глабальныя зрухі і катастрофы ў жыцці чалавецтва, абвастрыў праблему асобы і грамадства, Бога і чалавека, узнавіў цікавасць да фальклору, да мастацтва іншых эпох, у першую чаргу — антычнасці. Сімвалізм рашуча стаяў за абнаўленне мастацкай формы, за актыўныя пошукі ў гэтай галіне. Зразумела, што малады Бядуля з яго трапяткімі адносінамі да мастацкага слова, да кнігі, не мог не паддацца ўплыву ўсюдыіснай тады плыні. Аб гэтым сведчаць яго раннія рускамоўныя паэтычныя вопыты. Многія з іх, па сутнасці, уяўляюць сабой перайманні з вершаў модных пісьменнікаў — Бальманта, Брусава. У іх і "тени жутко дрожат неуклюжей толпой", і "меркнущая свеча", і "призраки иль гробы", словам — звыклая атрыбутыка эпігонаў сімвалізму.

Але з ростам паэтычнага майстэрства, станаўленнем творчай індывідуальнасці паэта гэтая пераймальнасць паступова знікае. Пры гэтым часта застаецца тыпова сімвалістычны "фон" настрою мяккага суму з адценнем няяснай трывогі:

**Гараць сняжынкі кволыя**
**І гаснуць на зямлі.**
**Хвіліны невясёлыя**
**У сэрца заплылі...**
**Пад гурбамі-заховамі**
**Жыву і не жыву.**
**Хачу чагосьці новага —**
**Парву ланцуг, парву.**

Звернем увагу на імкненне ўжыць свежы нечаканы эпітэт ("сняжынкі кволыя", "гурбы-заховы"), на падкрэсленую шматзначнасць аксюмароннага словазлучэння, заклікаyю стварыць ураджанне таямнічай недаказанасці: "Жыву і не жыву". Дарэчы, такія аксюмароны становяцца ўлюбёным паэтычным прыёмам у творчасці Бядулі: "Лес маўчаў і не маўчаў, пужаў і не пужаў", "Ідзе ён — на месцы не стаіць" і інш.

Як і ў чыста паэтычнай творчасці, у "Абразках" таксама фонам для думак і перажыванняў аўтара служаць людзі і прырода роднага краю, яго палі, лясы і балоты. Аднак паэт вельмі высока ўзлятае над імі і лунае ў іншых прасторах, бо "тутака, дома, усё клінам сышлося для мяне, ...тутака я сабе месца не знайду..." Ізноў-такі асабістаіндывідуальныя перажыванні аўтара, яго адзінокая і ўтрапёная душа выходзяць на першы план.

Сваёй напружанасцю лірычнай думкі, своеасаблівай музычнай "аздобленасцю" "Абразкі" нагадваюць "Сімфоніі" А. Белага. Блізкі нават стыль, часта арыентаваны на ўрачыстую ўзнёсласць біблейскіх тэкстаў:

**Цені радзеюць. Дзьмухнуў ветрык**
**раніцы.**
**Захавай у сэрцы сваім той лік**
**хараства і ідзі адгэтуль.**
**Занадта ты чулы, дзяцюк!**

Адзначым і наступнае: арганічна ўласцівыя дакастрычніцкай творчасці Бядулі рэлігійная тэматыка і вобразнасць. Адна з галоўных светапоглядных ідэй ранняга Бядулі — прысутнасць Бога ў акаляючым чалавека свеце, прысутнасць, якую здольны і павінен адчуваць частак. Асабліва ўражвае ў гэтым плане цыкл "На біблейскі лад", пачаты пісьменнікам у 1915-ым годзе і прадоўжаны ў 1918-ым:

**Голас Бога — у кліках**
**лясных бураломаў,**
**Голас Бога — у велічы гулкага грому,**
**Голас Бога — у полымі вогнішч вялікіх,**
**Голас Бога — у хвалях**
**прыгожых і дзікіх.**
**Голас Бога — у песні малітвы адвечнай.**
**Голас Бога — у волі святой**
**бесканечнай.**
**Голас Бога існуе ад века да века,**
**Голас Бога жыве ў душы чалавека.**

Відавочная напружанасць, нават экзальтаванасць рэлігійнага пачуцця аўтара. Звяртае на сябе ўвагу "насычанасць" творчасці беларускага пісьменніка царкоўнай сімволікай і атрыбутыкай: "Здаецца, не птушкі — Анёлы спяваюць", "Спеў мой... багамольны, быццам той вячэрні звон", "Нібы Сам тут Светлы Дух Рассцілае бель-пасцелі", "Ангелавы дзеткі", "божацкі авечкі" — звычайныя вобразы бядулевай паэзіі.

Без Бога, без малітвы не ўяўляе Бядуля і ўласнага ўнутранага жыцця:

**На дзядзінцы ціхім**
**Я стаю, дзіўлюся**
**І за цэлу вёску**
**Шчыранька малюся...**

Твораў з выразным рэлігійным зместам у Бядулі вельмі многа. Калі ж улічыць тое, што мноства вершаў (уключаючы цытаваны цыкл "На біблейны лад") рэлігійнай тэматыкі ў далейшым не перадрукоўвалася, а, наадварот, старанна замоўчвалася, то становіцца ясна, якую важную ролю адыгрывала гэтая тэматыка ў станаўленні светапогляду Бядулі. У цэнтры светабачання натуральным чынам аказваецца пантэізм — растварэнне боскага пачатку ва ўсім акаляючым свеце: у раслінах, жывёле, чалавеку; у Бядулі нават "лес моліцца", а сам паэт "робіцца братам" "бяроз, ручаёў, матылькоў, кволых кветак". "Святы Бог зямлі", — так называе аўтар свайго Бога, што жыве ў прыродзе і людзях.

Такі пантэізм быў увогуле ўласцівы лепшым мастакам беларускага Адраджэння — Купале, Коласу, Багдановічу. Бог Бядулі — гэта не звычайны, "артадаксальны" царкоўны Бог, а той вышэйшы духоўны і маральны пачатак, які павінен прысутнічаць у душы кожнага чалавека. У гэтым таксама вельмі многа ад філасофскіх пошукаў сімвалістаў, для якіх Бог і асабліва Хрыстос з'яўляліся нейкімі універсальнымі сімваламі дабра і прыгажосці.

Як заўсёды пры філасофскай і эстэтычнай арыентацыі на пантэізм, хрысціянскі Бог натуральна ўжываецца ў творчасці беларускага мастака з элементамі народнай дахрысціянскай веры.

Па сутнасці, уся дакастрычніцкая паэтычная творчасць беларускага пісьменніка — гэта несупынны працэс міфалагізацыі з'яў рэчаіснасці. Прырода ажыўляецца — "праімчала бура на шасцёрцы", і пярун ідзе па небе гулкім крокам", "даль гаварыла", "лес маліўся". Свет Бядулі напоўнены дзівоснымі, казачнымі персанажамі: тут Дзіў і Паморак, злыдні-шаптуны і начніцы, вадзянікі і лесуны, ваўкалакі і русалкі, гуменнікі і катызлыдні, кадук і жалезная баба... Сустракаюцца нават замежныя "госці" — валькірыі. Часам творы беларускага пісьменніка нагадваюць чароўную казку. У "Восені"

**...На балоце рудаўка багністая**
**Рассыпаецца ў плачу і квоху:**
**— Гэй, брыдзіце ка мне,**
**ветры мглістыя,**
**Па сцяжынках пуховага моху!**

Міфалагізацыя філасофскіх, сацыяльных і жыццёвых ідэй у Бядулі свядомая, асэнсаваная і нават тэарэтычна абгрунтаваная. Нашы продкі, падкрэсліваў ён, "стварылі сабе своеасаблівы фантастычны свет, своеасаблівую філасофію змагання дабра і зла, арыгінальна разважалі аб жыцці і смерці, тварылі касмаганічныя ды і іншыя байкі ў стылі міфаў старадаўняй Грэцыі". Такім чынам, культурнай спадчынай краіны, у якой "кожны век пакінуў знак-пячаць", ні ў якім разе нельга грэбаваць. З аднаго боку, відавочная арыентацыя пісьменніка на фальклор, на "мнагафарбнасць душы нашага народа", яе "першабытную юнацкую свежасць", з другога — на "кніжную" культуру, на пераемнасць культурных традыцый. У гэтым ён салідарызаваўся са сваім сябрам па жыцці і мастацтве Максімам Багдановічам. Багдановіч і Бядуля, бадай, адзіныя беларускія пісьменнікі пачатку XX стагоддзя, у творчасці якіх узнікалі антычныя матывы.

Вера ў жывую душу народа, у нацыянальную і сусветную культурную спадчыну, у Хараство як квінтэсенцыю жыцця і ўвасабленне Бога на зямлі — вельмі важны бок светапогляду Бядулі, які канчаткова склаўся ў 20-ыя гады. Але ёсць і другі бок медаля — адчуванне катастрафічнасці жыцця, нетрываласці Хараства. Таму ўжо ў першых вершах Бядулі — раптоўны пераход ад стану захаплення прыгажосцю навакольнага свету, малітоўнага экстазу да непакою, трывогі і смутку. "Хвіліны невясёлыя У сэрца заплылі", "Сэрца нешта благое прароча, І з грудзей яно вырвацца хоча..." Гэты стан душы лірычнага героя здольны распаўсюдзіцца і на ўвесь акаляючы свет:

**А па небу плывуць хмары,**
**Шэра, хоць ты памірай,**
**Нібы чары, злыя чары**
**Апаганілі ўвесь край...**

Традыцыйна прысутнасць такіх настрояў у лірыцы беларускіх паэтаў крытыка звязвала з "адсутнасцю рэвалюцыйнай перспектывы", з "дробнабуржуазным страхам" перад сацыялістычнай рэвалюцыяй. Сёння, калі адпала неабходнасць падмяняць светапоглядныя катэгорыі сацыяльна-палітычнымі, відавочна, што гаворка ідзе не аб якіх-небудзь "недахопах" ці "заганах" у творах Купалы, Коласа, Бядулі, а аб нечым важкім, неабходным для разумення іх светаадчування. Гэтае "важкае" ёсць агульнае для сусветнай літаратуры рубяжу XIX—XX стагоддзяў эсхаталагічнае пачуццё "канца веку", прадчуванне глабальных зрухаў у жыцці грамадства, чалавецтва. І гэты "дух часу" не маглі не адчуць і не ўвасобіць у сваёй творчасці нашыя лепшыя, таленавіцейшыя пісьменнікі. Сярод іх і Змітрок Бядуля.

# "ДВА ТВОРЧЫХ ЖЫЦЦІ БАГДАНОВІЧА"...

**У пачатку 60-х я пісаў артыкул пра Караткевіча ў "Короткую литературную энциклопедию", якая выходзіла ў Маскве (па рэкамендацыі Алеся Адамовіча). Адтуль былі заўвагі: маўляў, не рабіце з пачынаючага пісьменніка класіка, у яго ўсё наперадзе. Відаць, тон майго артыкула падаўся рэдактару крыху ўзвышаным. Жыццё паказала, што я не вельмі памыляўся ў ацэнцы ранняй паэтычнай творчасці Уладзіміра Караткевіча (к таму часу ў яго выйшлі дзве кнігі).**

**Тады ж у мяне адбылася спрэчка з Алесем Адамовічам, які прарочыў поспех Караткевічу выключна як празаіку. Я ж абараняў свой погляд на яго як на абсалютнага паэта ў любым жанры. Тут мы абое мелі рацыю...**

**Нягледзячы на асабістыя кантакты, у тым ліку сямейныя, мы з Валодзем абменьваліся час ад часу лістамі. Звычайна гэта бывала, калі "класік" (яго сяброўская мянушка) кудысьці ад'язджаў. Агульны тон лістоў звычайна быў досыць мінорны, але іх змест багаты інфармацыяй і эмоцыямі. Паказальным у гэтых адносінах можна лічыць ліст за 15 мая 1979 года, накіраваны мне ў Гомель, дзе кафедра літаратуры збірала матэрыялы аб рэгіянальных літаратурных асаблівасцях.**

**Мікола ГРЫНЧЫК**

..."Між іншым, сёння ў 16-00 студэнты запрасілі мяне і маіх сяброў у тэатральны інстытут, каб паказаць дзве сцэны: "Баль у Яноўскай" і "П'янка ў Дубатоўка з дуэллю пасля яе". Вось як яна выходзіць у людзі, зарэзаная калісь кніжка. У 19 год напісаў, у 29 — здаў. Не памятаю ўжо, у якім выйшла ў "Маладосці". Здаецца, яшчэ да гэтага была зарэзана асобнай кнігай разам з "Леанідамі" (а рэзаў, акрамя звышстаячых, нябожчык З. П. Матузаў і пляменніца Міхася Чарота, рэд. Галоўнага ўпраўлення па ахове дзяржаўных таямніц у друку пры Сав. мін. БССР Ярашэўская Галіна Іосіфаўна. Зараз, — відаць, за гэта — заслужаны дзеяч культуры БССР). А "Леаніды" і дагэтуль без прытулку. Толькі што ў Чэхіі выйшлі.



Блуканні па пакутах "Стаха" скончыліся ў 1972 у Чэхаславакіі (а мне ўжо сорак два), а пасля адно выданне (а мне ўжо сорак чатыры), і другое (а мне ўжо сорак восем). І будзе кіно (а мне ўжо будзе сорак дзевяць). Г. зн. трыццаць год жыцця на пусцяковіну. Два творчых жыцці Багдановіча (А, можа, й тры? Мабыць, нават тры). А ты пытаеш (пытаў калісьці, ды я не ўдасужыўся адказаць) аб уплыве рэгіянальных фактараў на тое, што пішу. Тут табе і ёсць адзіны рэгіянальны фактар.

Адзін фальклор тут прыдатны: кленічы і самы бессаромны мат. Імпартаваны з цэнтральнай Расіі.

Ну добра. На гэтым, мабыць, усё. Жадаю здароўя і ўсяго найлепшага табе, Любе, дзецям.

Твой Уладзімір

P. S. На пытанні твае адказваць лістом цяжка. Вось прыехаў бы, зайшоў, пагутарылі, запісаў. Я ўдакладніў бы. Падпісаў. І ўсё было б добра."



*На здымках: ля магілы Максіма Багдановіча ў Ялце. "Прызямляю Хрыста". Так напісана рукой аўтара на адвароце гэтага здымка (31 студзеня 1966 г.).*

# ЛАЎРЭАТАЎ НАЗВАЛІ ЧЫТАЧЫ

Кампетэнтнае журы ў складзе вядучых пісьменнікаў і мастакоў падвяло вынікі конкурсу на атрыманне прэмій выдавецтва "Юнацтва" ў галіне дзіцячай літаратуры за 1994 год. Лаўрэатам Літаратурнай прэміі імя Міхася Лынькова стаў Павел Місько — за аповесць-казку "Прыйдзі, дзень-залацень". Лаўрэатам Літаратурнай прэміі імя Петруся Броўкі названы Валянцін Лукша — за кнігу паэзіі "Батлейка". Трэці лаўрэат прэміі "Юнацтва" — мастак Валерый Славук. Адзначаны высокі ўзровень мастацкага афармлення ім кнігі "Залаты птах" і іншых выданняў.

Падвядзенню вынікаў конкурсу папярэднічала вялікая работа грамадскага журы, у якім прымалі ўдзел вучні, настаўнікі, бібліятэкары рэспублікі. Яны, дарэчы, і назвалі пераможцаў. А журы толькі засталося падвесці вынікі.

М. ЛУГАВЫ

# ДРЭЧЫНА ПАМЯТАЮЦЬ...

З нагоды юбілею народнага артыста Беларусі лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР Сямёна Дрэчына (яму споўнілася б 80) у Мінску адбудзецца шэраг імпрэзаў. Сёння ў Вялікай зале філармоніі — вечар памяці з удзелам Дзяржаўнага ансамбля танца рэспублікі, тэатра музычнай камедыі, Беларускага харэаграфічнага вучылішча, салістаў Львоўскага тэатра. У праграме — сцэны з балетаў, музычных камедый, народныя беларускія танцы ў пастаноўцы выдатнага дзеяча харэаграфіі С. Дрэчына. У гэтыя ж дні рыхтуецца адкрыццё мемарыяльнай выстаўкі ў фае Дзяржаўнага тэатра оперы і балета Беларусі, з гісторыяй якога гэтак ярка звязана імя С. Дрэчына-саліста. Пасля вяртання Нацыянальнага балета Беларусі з гастроляў юбілейным угодкам будзе прысвечаны адзін са спектакляў.

Н. К.

# ЗАВЕРШАНА ВЫДАННЕ

"Гісторыі беларускага мастацтва". Нядаўна ў выдавецтве "Навука і тэхніка" пабачыў свет яе заключны, шосты том. Ён ахоплівае перыяд з 1960-х да сярдзіны 1980-х гадоў. Час, як вядома, складаны і супярэчлівы. З аднаго боку павысілася сацыяльна-палітычная актыўнасць многіх творцаў, найбольш поўна пачала выяўляцца іх нацыянальная самасвядомасць. З другога — па-ранейшаму яшчэ давала знаць палітызаванасць мастацтва, жаданне некаторых творцаў заставацца свайго роду прывабнымі рамянямі... партыі.

Наколькі ўдалося ўсё гэта паказаць у кнізе — меркаваць чытачам. Нагадаем толькі, што том падрыхтаваны аддзелам выяўленчага мастацтва Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларусі (кіраўнік — загадчык аддзела доктар мастацтвазнаўства Л. Дробаў) сумесна з прадстаўнікамі вышэйшых навучальных установаў і ўстановамі культуры нашай дзяржавы.

Прэзентацыя выдання адбылася ў час чарговай выстаўкі "Беларуская кніга-94". Перад прысутнымі выступілі загадчык рэдакцыі філалогіі і мастацтвазнаўства выдавецтва "Навука і тэхніка" Л. Пятрова, вядучы спецыяліст па выпуску беларускамоўных выданняў З. Санько, рэдактар шостага тома В. Марціновіч, Л. Дробаў, навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Я. Сахута, вучоны сакратар В. Жук.

# УСЕ СЦЯГІ Ў ГОСЦІ ДА НАС

Выдавецтва "Полымя" выпусціла кнігу А. Басава і І. Куркова "Флагі Беларусі ўчора і сёння" (пераклад на беларускую мову А. Найдовіча). Гэтае выданне цікавае тым, што ў ім у папулярнай форме расказваецца аб усім, што тычыцца вексілалогіі. Не ведаеце, што гэта такое? Ды навука аб флагах, аб гісторыі з'яўлення флагаў у розных краінах. Аднак асноўная гаворка аўтараў аб флагах нашай Бацькаўшчыны ў самыя розныя часы. Са старонак кнігі можна даведацца пра свайго роду правобразы гэтых палотнішчаў — сімвалы полацкага князя Ізяслава. Не абыдзены ўвагай і штандары вялікіх князёў літоўскіх. І так робіцца крок за крокам, набліжаючыся да дня сённяшняга, калі бел-чырвона-белае палотнішча было зацверджана як дзяржаўны сімвал Рэспублікі Беларусь.

Паэзія

Віктар ШНІП



# ЛЮСТРА АНЁЛАЎ

## ЗОРКА

зорка заўсёды вышэй
ідучы праз пустэльню
вандроўнік глядзіць на яе
вязень седзячы ў астрозе
і гледзячы праз краты
па зорцы пазнае што ў свеце ноч
зорка гэта свечка
у Храме сусвету
запаленая самім Богам
зорка гэта люстра
у якое глядзяцца анёлы
рыхтуючыся апусціцца на зямлю
зорка гэта ружа
ля якой як матылі
лётаюць людскія душы
і я гледзячы на зорку
у думках лячу да яе
а яна далёка як маё дзяцінства
а яна маўклівая як залатая рыба
якая не імкнецца да Сузор'я рыб
а любіць адзіноту

## ПЛОТ

плот гэта ахоўнік
яго паставілі і ён стаіць
і кожны хто праходзіць міма
стараецца зазірнуць за плот
бо плот спакушае
і чым большы плот
тым большая спакуса
плот гэта драбіна
па якой спускаюцца ва ўласнае я
абмяжоўваючы сябе ў прасторы
але ў плоце заўсёды ёсць вароты
як зварот у свет
дзе ёсць дарога
якая ўцякае ад платоў
за якія хаваемся мы
і выходзячы з-за плоту
мы імкнёмся назад
плот ашыйнік
на шыі майго жыцця

## МУХА

яна хоча быць царыцай
калі не на кухні дык на сметніку
яе праганяюць але яна лезе
яна цікаўная
яна дападная
яна адна але яна ўсюды
яна гудзе нібы вар'яцка
і я вар'яцею
ганяючыся за ёй па кватэры
яна бачыць ува мне гаспадара
яна бачыць ува мне ворага
і яна б'ецца ў шыбу
як рыба аб лёд
забыўшыся пра ўсе свае жаданні
помнячы толькі адно
ляцець
муха гэта д'ябал
які не спакушаў
а сам спакусіўся
і яго прагналі з пекла
каб ён памучыўся
і зразумеў
што лепей
быць мухай на зямлі
ці д'яблам у пекле
і ляціць муха на кухню
і ляціць муха на сметнік
і застаецца мухай

## ЛАПАТА

ляжыць ля паветкі лапата
чакае гаспадара
ёй сумна без працы
і гэты сум на ёй ужо цвіце
крапінкамі ржы
лапата любіць капацца ў зямлі
яна капала дол на могілках
яна капала калодзеж ля хаты
і хваліў яе гаспадар
і плакала карэнне дрэў
лапата гэта гільяціна
і цяпер калі яна ля паветкі
павукі старанна абвіваюць яе павутой
як вусеня
спадзеючыся што напесціўшыся пад сонцам
з яе вылупіцца
як чэрвеньскі луг матыль

## ЧОВЕН

човен гайдаецца на хвалях
пазвоньваючы ржавым ланцугом
які яго не пускае аддацца рацэ
і плыць у незваротнасць
човен гэта шкарлупіна арэха
якія растуць у краіне
дзе ніколі ніхто не быў
човен гэта труна
у якой пахаваны
самотныя і вясёлыя дні
рыбаловаў і вандроўнікаў
і падскоквае човен на хвалях
спрабуючы ўбачыць чалавека
але начамі прыходзіць Харон
і перавозіць на другі бераг цені
а пад раніцу зноў прывязвае човен
у цень якога ў спякоту
хаваюцца русалкі
і спяваюць сумныя песні
і злуецца Вадзянік
і колькі ўжо дзён збіраецца
даць вольную чоўну
але ўсё ніяк не наважыцца
бо любіць слухаць звон ланцуга
які напамінае яму звон грошай
якія калісьці ён меў

## СЯКЕРА

на вастрыі сякеры
жыве смерць
і чуецца мне голас дзеда
не чапай сякеру пасячэшся
але я сякеру бяру
бо даўно няма дзеда
і слухаецца мяне сякера
і разлятаюцца як восы шчэпкі
і падае сухое дрэва
і сякера ў маіх руках цяжэе
і кладу я сякеру
і кажу свайму сыну
не чапай сякеру пасячэшся
і ляжыць сякера на дрывотні
як вой на касцях ворага
святкуючы сваю перамогу
і ляжыць сякера да пары да часу
і спяць у ёй гром і маланка
і хто возьме сякеру
той і будзе гаспадаром

## КАРАНІ

карані як змеі
звязаныя ў адно цэлае хвастамі
распаўзаюцца ў падземным царстве
ва ўсе бакі свету
у пошуках сэнсу жыцця
і яны нястомныя
прагныя і ўпартыя
іх вымываюць рэкі
іх разразаюць плугі і лапаты
а яны паблісківаючы на сонцы
сваімі гнуткімі целамі
зноў імкнуцца ў цемру зямлі
дзе па пошуму траў
пазнаюць вясну
па посвісту завей зіму
і чым глыбей распаўзаюцца карані
тым вышэй дрэва падымае крону
і вецер не паваліць дрэва
і толькі маланка
закахаўшыся ў дрэва
загубіць дрэва
але не карані
якія маланкай падземнага царства
дадуць святло новаму дрэву

## ГАРШЧОК

на прыпеку стаіць гаршчок
гаршчок пасыльны
яго напаўняюць і асцярожна
як бомбу
двума жалезнымі пальцамі
уносяць у пекла агню
і ў гаршку ўсё закіпае
ён злуецца і радуецца
і ад гарачыні аж вар'яцее
і вогнікі злізваюць з яго пену
і ў рэшце рэшт у гаршку ўсё супакой-
ваецца
супакойваецца і сам агонь
і гаршчок стаіць сярод вугалёў
як пан сярод золата
і прыходзіць час і дастаюць гаршчок з печы
і забіраюць з яго ўсё
з чым пасылалі ў пекла агню
і мыюць яго і шкрабуць
каб зноў паставіць на прыпек
і стаіць ён на прыпеку чорны як вугаль
і слухае як па дымаходзе падымаецца
і ўцякае з хаты ў неба чад
і ўяўляе сябе гаршчок звонам
якому крыху не пашанцавала



Малюнак У. СКРЫГАНАВА

Проза

Алена ВАСІЛЕВІЧ

# НОВЫЯ СТАРОНКІ



## МУЖЧЫНЫ І ЖАНЧЫНЫ

### 1. Саламонава прытча

— Выпусці мяне на волю...

Словы гэтыя вырваліся ў яго, калі яны з жонкаю ўжо развіталіся, і ён затрымаў яе руку ў сваіх руках.

— Дай мне вольную...

Атрымалася падобна на кволы жарт. Ён увесь тыдзень, як прыехаў дадому, шукаў і не знаходзіў іх у сабе, гэтыя словы, і цэлы тыдзень, як ні намерваўся, як ні прымушаў сябе, як ні пакутаваў ад уласнай слабасці і нерашучасці — ніяк не знаходзіў патрэбнага моманту, ні патрэбных яму слоў. І вось, нарэшце, яны былі вымаўлены. І ён сам жахнуўся іх: не тыя словы! Не тыя! Не тая інтанацыя. І нават яго ўсмешка — і яе, здалося яму, убачыў ён на сваім твары — і ўсмешка была не тая, а нейкая шкадобна-вінаватая, як у жабрака, што просіць міласціну. Але паправіць нешта было ўжо немагчыма. Ён трымаў схудзелую жончыну руку ў сваіх руках, імкнучыся злавіць яе позірк.

— Ты ж добрая. Ты ўсё разумееш.

Яна сапраўды была д о б р а я. І ён паспадзяваўся на гэта. І памыліўся.

— Я — добрая?! Я ўсё разумею?! — як з распаленых жалезных абцугоў вырвала яна сваю руку з яго рук. — Я — добрая!.. — паўтарыла жонка, і ён не пазнаў яе ў гэты момант. Ён ніколі, ніводнага разу, за ўсё іх сумеснае жыццё, не бачыў у яе такіх вачэй і такога позірку. Бязлітаснага і помслівага адначасова.

— Я — добрая, і таму табе патрэбна в о л я! — з яе збялелых вуснаў, з нейкай незнаёмай яму глыбіні яе грудзей, вырваўся — разам са слязьмі — не чуты таксама ім ніколі раней здзеклівы смех.

Ён не знайшоў у сабе іншых слоў сказаць ёй нешта яшчэ. І ён міжволі адступіў ад яе на крок.

— Маленькая дробязь! Табе трэба в о л ь н а я! А мне трэба, каб у маіх, каб у нашых траіх дзяцей... Чуеш? Т р а і х, нашых з табой, дзяцей! — мне трэба, каб у іх быў бацька. Нават такі, якога яны амаль ніколі не бачаць. А толькі носяць яго гучнае прозвішча!

Яна зноў засмяялася пагардліва, нядобра, як умеюць смяяцца толькі жанчыны, страціўшы ў л а д у над мужам, але не страціўшы п р а в а на яго.

Ён зноў нічога не адказаў ёй. І на гэты яе смех.

— Ты зразумеў мяне? Тваё прозвішча! Ты ж у іх славуты бацька. Цябе ж ведае паўсвету!.. І таму забудзь, што я добрая, што я цярплівая і ўсё разумею... Сама я ад цябе смяротэльна стамілася. І мне ўжо ўсё роўна: дзе ты, з кім ты, і якая табе патрэбна воля. Мне ўсё роўна!

Умомант астыўшы, збялелая ад непамернага ўзрушэння, і сапраўды стомленая, жонка апусцілася на крэсла і паклала абедзьве рукі на стол, што стаяў пасярэдзіне пакоя. Ад яго ўвагі не ўзнікла міжвольнае параўнанне гэтых не спешчаных яе рук з рукамі д р у г і м і, ва ўладу якіх (патрабавальную, маладую ўладу!) ён гэтак прагнуў аддаць сябе самога.

Таму і вынікла, як спапяляльная маланка, гэта гаворка з жонкаю. Ён не спадзяваўся, што яна будзе з такім вынікам. Яму патрэбны быў станоўчы жончын адказ. Патрэбна была яе з г о д а. Інакш яго чакала н я з г о д а другая. З другою жанчынай. Страціць якую зараз было для яго ўсё роўна, што страціць сябе самога. Ён павінен быў прыехаць да яе з рашэннем к а н ч а т к о в ы м. І не інакш! Тая, другая, таксама стамілася... І яе становішча таксама было... Хоць выбірала яна гэта становішча — па першачасе — хоць рабіла гэты крок, ні на што не азіраючыся і ні на што не спадзеючыся. Як, дарэчы, і сам ён. Але мінуў ужо не адзін год такіх няпэўных адносін, і д р у г а я, маючы ўжо добра ўстойлівую ў л а д у над ім, патрабавала цяпер ад яго яшчэ і п р а в а.

(Такога, якім да гэтага часу ўсё яшчэ карысталася п е р ш а я...)

— І больш не кажы мне пра гэта! Паўтараю: гаворка не пра мяне. Гаворка пра тваіх (т в а і х усё-такі!) дзяцей. Траіх.

Яна ўзняла на яго змучаны, і ў той жа час дзіўна супакоены, непахісны позірк. І ён прачытаў у ім прысуд. Сабе самому. Прысуд канчатковы і пажыццёвы.

— Даруй. — усяго толькі і вымавіў ён. — Даруй...

Як напамінак, што Час ідзе сваім ходам няўмольна і незалежна — што б там ні адбывалася з людзьмі, — прабілі цяжкія ўдары па сцяне гадзіннік.

Адзін. Два. Тры. Чатыры. Пяць. Шэсць.

І ён падняўся з месца.

— Мне пара... — і ўзяў з канапы свой дарожны сакваяж.

— Не забудзь перакласці ад вакна падушку і спі галавой да дзвярэй, — цяжка, як зусім старая жанчына, — ён упершыню ўбачыў яе такою — устала з крэсла жонка.

Ён не стрымаў усмешкі: падушка, госпадзі!

Але яна памятала пра яе і сёння. І ў гэты момант. Каб у вагоне ад вакна яго не праняў скразняк. Ён усё жыццё схільны быў да прастуды.

— Я пазваню, як прыеду.

Гэта таксама была шматгадовая звычка: пазваніць абавязкова, куды б ён ні паехаў, дадому.

Яна моўчкі кіўнула галавой: пазвані.

У іх не было звычкі доўга праводзіць і доўга развітвацца. Доўгія провады — дарэмныя слёзы... Ён пацалаваў яе ў шчаку сухімі вуснамі і паспешліва накіраваўся з пакою. Жонка, як стаяла, так і засталася стаяць на месцы. У калідоры ён сам зачыніў за сабою дзверы.

...У в у с н ы ц а л у е т о й, х т о г а в о р ы ц ь с л о в а м і в е р н ы м і...

Спускаючыся па лесвіцы, успомніў ён раптам Саламонаву прытчу.

"Гэта пра мяне... Пра мяне гэта", — падумаў ён.

І квола ўсміхнуўся — з сябе самога.

### 2. "Ненавіджу лікёр!.."

Высыпала і перабірала на днях, седзячы на падлозе, мех з пісьмамі і паштоўкамі. Спатрэбілася знайсці адзін даўні ліст. Іголка ў стозе сена!

Маладыя не разумеюць; "Навошта табе трымаць усё гэта?.." А куды дзену? На сметнік, можа, вынесці?!. Калі б у мяне быў камін... "Гори, письмо любви, она велела..." А так!.. Пасля мяне — як захочуць. Але толькі — у агонь!

Ад часу і гадоў — пажоўклыя старонкі, знаёмыя і забытыя почыркі, знямелыя вітальныя і развітальныя галасы...

**Дзе тыя людзі?**
**Дзе імгненні тыя?..**

Пэўна, і ёй, армянскай каралеўнай паэтцы радкі гэтыя прадыктаваў некалі смутак і шкадаванне.

...Аркушык паштовай паперы — голуб нясе ў дзюбцы канверт — спісаны імклівай рукою, зялёным чарнілам. Праз сто гадоў пазнала б! І рука, і чарніла (любіла зялёны колер) Ліны Гурынай. Няма пачатку. Няма канца. Аркушык пачынаецца з малой літары працягам радка-запытання са згубленай старонкі: "...віджу лікёр? Ты, пэўна, чытаючы гэтыя мае радкі, будзеш пасміхацца: адкуль і сапраўды ў Лінкі гэтыя рэстаранныя замашкі? Калі і сапраўды ўпершыню ў сваім жыцці паспрабавала я шампанскае толькі пасля абароны універсітэцкага дыплома. Памятаеш, як у гонар свае жонкі наладзіў баль і запрасіў нас усіх, яе сяброўак, муж Райкі Рой? Памятаеш, як чамусьці толькі адны мы з табою так сп'янелі ад шампанскага, што не здольныя былі самі падняцца з месца?.."

Дзіва што я памятала той баль! На плоскім, як у якой асеціснкай саклі, даху зямлянкі, пад хвоямі ў вайсковым гарадку ва Уручы. Той а с а б і с т а й зямлянкай — на другім пасля вайны годзе пасля пераможанага Берліна — валодала са сваім баявым капітанам наша сяброўка-аднакурсніца Рая Рой.

Зямлянка ўжо сама па сабе была раем у будане: Райка, якая лічылася і не самай першай універсітэцкай студэнткай, жыццю ўтульнасць надаваць умела! А капітан яе любіў у жыцці яшчэ і размах! Калі ўжо баль у гонар жончынага дыплома, дык каб усё аж гуло наўкола! І ён сапраўды наладзіў яго — і нам таксама, заўсёды амаль па тым часе добра галодным студэнткам. Наладзіў н а д а х у зямлянкі! З ілюмінацыяй! З патэфонам... "Очи черные, очи жгучие!" (Жончыны вочы!)

...Зманліва чаравала зрок — чырвонае і чорнае! — Стэндаль пасля экзаменаў — на бялюткім абрусе кетавая і паюсная ікра ў адмысловым посудзе. Адна перад другой красаваліся, якіх мы зроду не бачылі, бутэлькі вінаў, маляўнічыя бляшанкі-кансервы, шпроты, сыр, каробкі цукерак, шакалад, гронкі вінаграду ў высокіх вазах... Зіхацеў крышталь бакалаў — прадбачліва капітан не абмінуў і яго ўвагаю ў Германіі... Страляці ў вячаровае аксамітнае неба, салютавалі нашай перамозе над навукамі коркі з бутэлек шампанскага!

— За перамогу над Германіяй! — Прыгажун-капітан закахана абдымаў жонку і ні на хвіліну не забываў пра нас — яе і сваіх гасцей. Наліваў і наліваў нам у крышталёвыя бакалы... А сама Райка ўсё грувасціла і грувасціла на нашы талеркі яду-закусь. Каб добра пад'елі, каб не сп'янелі дарэшты...

Як можна было забыць тое Лукулава піраванне!

...Пасля універсітэта лёс, як і належала яму па ўладзе, разнёс-развеяў нас па свеце, каго куды, куды каторую. Пісьмо, якое трапіла мне пад рукі, атрымала я некалі на вуліцу Чалюскінцаў у горадзе Курску, дзе жыла я тады з сям'ёю. Ліна адразу ж пасля універсітэта, неяк зусім нечакана пайшла замуж за чалавека, якога амаль не ведала і выехала на Украіну. Праз нейкі час, праз нашы дзявочыя хатнія адрасы, мы адшукалі адна адну і часта перапісваліся.

Мы жылі з Лінай у інтэрнаце два гады ў адным пакоі. На курсе з усіх нас, дзяўчат, яна была самая здольная. Яна ўжо тады пісала вершы і маленькія допісы, якія друкавала ў "Піянеры Беларусі" і ў "Чырвонцы". Мы ўсе, астатнія, нават дарогі туды не ведалі... Пісаць Ліна не пакінула і пасля замужжа. Тым больш што яна працавала ў абласной газеце.

Старонка Лінінага пісьма вяртала мяне ў тое жыццё яе, што выгадала ёй доля.

"Уяўляеш, якое было ў мяне дзіва... Маё апавяданне надрукаваў часопіс! Дома! Наш!.. Ты ж разумееш, што "наш", "дома" — гэта толькі на радзіме, а не тут. Хоць тут у мяне і муж, і кватэра, і работа... Надрукавалі на 4-х старонках! З малюнкамі мастака А. Волкава. Цудоўнымі! (Шкада, што я не ведаю яго...) Уяўляеш, якая я была шчаслівая! У рэдакцыі, калі я прынесла і паказала часопіс, вачам не паверылі. Я ж нікому не казала, што я пішу.. Супрацоўніца-сяброўка схапіла часопіс і панесла паказваць па аддзелах. Пачалі ўсе прыходзіць у наш аддзел. Віншаваць мяне!.. У нас тут працуюць слаўныя людзі!.. А пазаўчора прыйшоў і ганарар! 3600 — тры тысячы шэсцьсот рублёў! Я зроду ў руках не трымала такіх грошай... Прыляцела з пошты дадому. Ледзь дачакалася свайго мужа. Паказваю яму: бачыш! А ў яго выраз твару — нібыта я яго пакрыўдзіла. Ці нават абразіла... А думаеш, ён павіншаваў мяне з выхадам майго апавядання ў часопісе? Сказаў толькі, што ніяк не чакаў г э т а г а ад мяне, што здзіўлены... І ўяўляе, ён і мяне ўжо н а в і т а л і (так і сказаў: "навіталі"...) у рэдакцыі. Я сказала яму: "Давай пойдзем у рэстаран. Я паклічу сваіх рэдакцыйных, хто мне бліжэйшы... Закажам шампанскае. Адзначым!" А ён мне: "Якая цікавасць піць абы з кім? Прасадзіць за адзін вечар усе грошы... Можна і дома адзначыць... І ўвогуле, адкуль у цябе такія рэстаранныя замашкі? Відно, не ўсё я пра цябе ведаю". Уяўляеш, ён н е ў с ё пра мяне ведае!.. Кінула я той свой ганарар на стале, на кухні, і каб, не стрымаўшыся, не заплакаць, не сказаўшы больш ні слова, пайшла ў пакой. І такім раптам ненавісным і непатрэбным мне здалося ўсё наўкола мяне!.. Неўзабаве, чую, грукнулі дзверы. Значыць, пайшоў некуды. Ідзі!.. Не ведаю, колькі прайшло ўжо часу — зноў грукнулі дзверы на кухні. Значыць, вярнуўся (лепей не вяртаўся б!) "Дзе ты?" — гукае. Я маўчу. Заходзіць, Урачысты, прасвятлены. "Ідзі сюды!" — заве. А мне ўжо лепей, каб з месца не стаць. Каб толькі не ісці да яго... Сам падышоў, узяў за руку: "Хадзі, пабачыш"... Іду — ледзь цягну ногі. На кухні, на тым жа століку-шафцы пад цыратай стаіць чацвярцінка лікёру. Вішнёвага. А побач — слоік марынаваных маслячкоў, слоік агуркоў марынаваных, яшчэ нечага слоік...

— Кепскі лікёр? — пытаецца.

— Выдатны, — адказваю.

— Закусь кепская?

— Таксама выдатная.

— Дык які табе яшчэ рэстаран патрэбны? Хто табе яшчэ трэба, калі нам і дваім будзе добра?

— Не трэба мне рэстарана. І нікога мне не трэба.

Так і сядзелі ўдваіх на кухні за тым цыратавым століком-шафкаю. У мяне не падняліся рукі дастаць і паслаць абрус на стале ў пакоі. Так удваіх і пілі тую чацвярцінку лікёру... Ненавіджу лікёр! Нена..."

Працягу Лінінага пісьма, як і пачатку, я не знайшла ў сваім рэзруху.

...Я ведала: Ліна хварэла на сухоты і лячылася ў Алупцы. Там яна і памёрла. Зусім яшчэ маладая.

Пахавалі яе на Ялцінскіх могілках.

### 3. На суд прысяжных

*Доктару В. Ф.*

Расказваў знаёмы траўматолаг з "Хуткай дапамогі":

— Не так даўно быў выпадак. Звоніць жанчына: чалавек сцякае крывёю — раскроены чэрап... Мая брыгада якраз заступіла на дзяжурства. Сумаваць,

(Працяг на стар. 14)

ЛіМ
ЧАСАПІС

## САМАБЫТНАЕ МАСТАЦТВА



**У выставачнай зале гомельскага аддзялення Саюза мастакоў Беларусі адкрылася выстава работ народных майстроў вобласці. Галоўны крытэрый адбору твораў для гэтай экспазіцыі — іх унікальнасць, самабытнасць, нацыянальны каларыт.**

**Арыгінальных лялек з гліны і пап'е-машэ, ільну і саломкі, пляценне з лазы, макрамэ, тканыя ўручную жывапісныя дываны, карункі, вышыўку, рэчы з дрэва, незвычайныя скульптурныя кампазіцыі з каранёў дрэў і яшчэ многае іншае ўбачаць наведвальнікі гэтай цікавай выставы, якая так і названа "Унікальныя майстры Гомельшчыны".**



*На здымках: у залах выставы; карункі майстрыхі з Кармянскага раёна Алены Анішчанкі.*

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛІНФАРМ*

## ПАМЯЦІ МАЭСТРА

**З аншлагам прайшоў у мінулую нядзелю сімфанічны канцэрт на галоўнай філарманічнай сцэне рэспублікі. Прысвячаўся ён памяці незабыўнага для некалькіх пакаленняў слухачоў і музыкантаў маэстра — Віктара Дуброўскага. Сорак дзён мінула, як асірацеў Акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі, страціўшы свайго мастацкага кіраўніка, выдатнага дырыжора... Вялікае фота ў фае філармоніі нагадвала пра зямное аблічча В. Дуброўскага. А дух яго, здаецца, лунаў разам з цудоўнаю музыкай, якою поўнілася і сама асаблівая атмасфера таго вечара, і сэрцы людзей. Акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі, якім дырыжыраваў наш сталы сябра, германскі маэстра Лео Крэмер, харавая капэла на чале з мастацкім кіраўніком Людмілай Яфімавай, салісты Н. Кастэнка, Н. Руднева, Р. Палішчук ды А. Міхайлаў падрыхтавалі да гэтай нагоды "Рэквіем" В. А. Моцарта. Стаіўшы дыханне, слухала перапоўненая зала (не ўсім нават давялося знайсці вольнае крэсла). Потым — гарачая хваля авацый... Пасля антракту праграма мела па-мастацку лагічны і яркі працяг: загучала сімфанічная паэма Р. Штраўса "Смерць і прасвятленне"...**

**С. Б.**

## КАНЦЭРТ ПЕСЕННІКАЎ

**Гродзенскія кампазітары — знаныя аўтары і моладзь — выступілі са сваімі песнямі перад навучэнцамі вучылішча мастацтваў. Блізкасцю да народных інтанацый вылучаліся песні Аляксандра Шыдлоўскага, Яўгена Петрашэвіча, Марка Копа, Вячаслава Пакумейкі, Уладзіміра Малочкі. Іх выканаў жаночы вакальны ансамбль пад кіраўніцтвам Анатоля Шамлі. Усхваляванай дэкламацыйнасцю вызначаліся песні Вячаслава Макуця. Жывасцю і непасрэднасцю вабілі дзіцячыя песні Іраіды Саўчук. Меладычны дар прадэманстравала юная Наташа Дэбыш, змястоўнасць — Алесь Лойка, чые разгорнутыя маналогі па-майстэрску праспявала Ірына Мамуль.**

**Увагу публікі прыцягнула Алена Пячыніна. Найлепей яна паказала сябе як аўтар слоў і музыкі, а таксама як спявачка, чый багаты па тэмбры голас перадаваў самыя тонкія рухі жаночай душы. Мне думаецца, што гэта адметнае слова ў сучасным рамансе.**

**Закончыў канцэрт Аляксандр Чопчыц прэм'ерай песні на словы А. Раманава "Гародня".**

**В. РАДЗІЁНАЎ,**
старшыня Асацыяцыі кампазітараў Гродзеншчыны

# І БАРАНІЦЬ — АБАВЯЗАК ТЭАТРА...

***Ці не ўсе, з кім выпала грамадаваць сёлетнімі кастрычніцкімі днямі, меркавалі: усё, што дзеелася на мінскіх тэатральных абшарах падчас апошняга кастрычніцкага тыдня, зладзілася ці не ўпершыню ў свеце...***

Міжнародная канферэнцыя мела назву "Псіхалагічная рэабілітацыя дзяцей сродкамі тэатральнага мастацтва", а ў трыянале, прымеркаваным да яе, бралі ўдзел дзіцячыя тэатры Беларусі, Расіі і Нямеччыны. Ужо напрыканцы лістапада дырэктар Рэспубліканскага тэатра юнага гледача Ігар Андрэеў і мастацкі кіраўнік Мадэст Абрамаў (а менавіта ТЮГу належала ідэя падобнае імпрэзы) прымалі дырэктара Першага ўкраінскага тэатра для дзяцей і юнацтва Яўгена Підкарчэўнага. Спадар Підкарчэўны, дачуўшыся пра беларускую ініцыятыву, прыехаў замаўляць слова пра ўдзел свайго тэатра ў будучым трыянале, паяднаным з канферэнцыяй... Бо імпрэза, якую менавалі "ці не першаю ў свеце", асноўную каштоўнасць набыла менавіта праз зносіны прадстаўнікоў мастацтва і медыцыны, менавіта на сутыку сфер іхняе дзейнасці.

Перадусім ТЮГ, як ніякі іншы тэатр, заахвочвае і разумее адметнасць сваёй штовечаровай залы. "Я пазнаю яе па дыханні", — казала ўлюбёнка мінскай дзятвы, заслужаная артыстка рэспублікі Вера Кавалерава, — а малыя, бывае, падыходзяць на вуліцы і, называючы мяне імёнамі маіх персанажаў, пытаюцца, раюцца, а то і скардзяцца..." маючы гэта на ўвазе, тэатр не можа не закладаць у сваю работу так званае рэабілітаванне, — тым больш, што гаворка навукоўцаў і дзеячаў тэатра тычылася не толькі хворых. Яна кранalася ўсіх, хто штодня церпіць ад недасканаласцяў жыцця. Нашых з вамі дзяцей.

Зазвычай на вачах у людзей — гучнае, дарагое, прэстыжнае. Вялікая імпрэза прыцягнула, так бы мовіць, грамадную ўвагу да дзіцячых тэатраў і іхніх праблем, і грамадства, прыемна здзіўляючыся, даведалася: зала беларускага ТЮГа ўжо чатыры гады запар бітма набітая. Мінула зусім няшмат часу пасля наведання школ, садкоў, летнікаў з неабыякавымі расповядамі пра тэатр і запрашэннямі на спектаклі, — і ТЮГ сцвердзіўся, папулярызуючы сябе. Сцвердзіўся, скіроўваючы спектаклі ды педагагічную дзейнасць такім чынам, што ў кіраўніка канферэнцыі, акадэміка, доктара навук прафесара Якава Каломенскага былі ўсе падставы разважаць пра дзіцячы тэатр, як пра сродак развіцця і самаразвіцця асобы. Цікава, што распрацоўкаю тэорыі развіцця асобы дзіцяці (як і тэорыяй дзіцячай гульні, як і псіхалогіяй мастацтва) займаўся наш знаны суайчыннік Леў Выгодскі, — яго работы не раз згадвалі, на іх не раз спасылаліся ўдзельнікі канферэнцыі. Праўда, сп. Хубэрт Флахубэр, кіраўнік гурта "Шнаўль" Нацыянальнага тэатра з Мангайма, заўважыў, што тэмы і справаздачы канферэнцыі былі, па-бальшыні сваёй, надта агульныя, дужа шырокія. Шкада, што гутарка пра адметнасці дзіцячага ўспрымання спектакля не перайшла ў абмеркаванне, і слушная заўвага Аляксея Барадзіна, кіраўніка Расійскага акадэмічнага маладзёжнага тэатра, не набыла паслядоўнага каментарыя, — а сп. Барадзін якраз сцвярджаў, што відовішча для дзяцей ні ў якім выпадку не павінна быць спрошчаным або адаптаваным, бо тады перадусім трэба сумнявацца ў самой прыналежнасці гэткай праявы да мастацтва.

Выступленні ўдзельнікаў перапыняліся толькі ўвечары — спектаклямі. Самыя шчырыя і актыўныя выклікаў спектакль Беларускага ТЮГа "Пра гэта не гавораць...". У свой час ягонаму з'яўленню паспрыяў сп. Флахубэр, даводзячы сваю рацыю набалеласцю праблемы: сексуальнае выхаванне дзяцей доўгі час не заахвочвалася ў Германіі, а сексуальнага гвалту, ад якога цярпелі дзеці, нібыта і ўвогуле не існавала. Мусім пагадзіцца, што ў сучасным беларускім грамадстве гэтыя далікатныя тэмы не карыстаюцца пільнай і далікатнай грамадскай увагаю — часцяком таму, што культура іх публічнага абмеркавання яшчэ не напрацаваная. Якою недатыкальнаю, проста забароненаю, у тым ліку і для дзіцячага тэатра, была тэма, якую спрадвеку фармулююць так: адкуль бяруцца дзеці?! Колькі вынаходлівых адказаў ведаюць дарослыя! Як пасмейваюцца з іх дзеці... Але часам дзіцячаму смеху бракуе добразычлівага разумення і адкрытасці. Спектакль ТЮГа каштоўны ўжо тым, што ставіцца да адвечнага пытання з вялікім гумарам і прапануе гледачам своеасаблівую гульню... з пэўнымі ведамі па генетыцы. "Гэтага спектакля мы чакалі дваццаць гадоў!" — засведчылі ад імя настаўнікаў на абмеркаванні.





Адзін з нямецкіх спектакляў, "Першае каханне..." Р. Фінке, кранаўся сексуальнага гвалту. Шаснаццігадовая дзяўчына, зазнаўшы яго ў маленстве, не магла паразумецца з юнаком, які шчыра ёй сімпатызаваў...

Якраз на гэтых двух спектаклях і выявілася розніца ў падыходах да твору на "забароненую" тэму. Калегі з Нямеччыны меркавалі, што на сцэне варта толькі ўсё назваць, пазначыць, задаць тэму для абмеркавання пасля спектакля, — так бы мовіць, вырашыць сцэнічны канфлікт намаганнямі гледачоў, даць ім магчымасць выгаварыцца і тым самым напоўніцу зведаць рэабілітацыйны эфект пастаноўкі. Пытанне толькі ў адным: ці захочуць гледачы ладзіць свой спектакль-абмеркаванне пасля ўсяго, што пачулі са сцэны? Бо пачулі відавочна болей, чым пабачылі, чым уявілі. Беларускія і расійскія спектаклі ні да якіх абавязковых спрэчак на забароненыя тэмы не змушалі, бо нешараговымі мастацкімі сродкамі, з гумарам і, адначасова, філасофскім настроем, добра вядомым, традыцыйным чынам заахвочвалі гледачоў прыслухацца да саміх сябе, даверыць на час спектакля свае сумнівы, страхі ды комплексы тэатру. "Наш гарадок" Т. Уальдэра ды "Вечарына рускіх вадэвіляў" у пастаноўцы, адпаведна, Аляксея Барадзіна і Алены Даўгінай (яны прадставілі Расійскі акадэмічны тэатр моладзі) выконваліся вельмі маладымі акцёрамі, леташнімі выпускнікамі-аднакурснікамі ГІТІСа (РАТІ). Яны ўяўляюць сабою ўжо зладжаны ансамбль і ўмеюць працаваць у самых палярных жанрах. Слушны тон спрэчкам ды абмеркаванням задаў Беларускі ТЮГ спектаклем "Стваральніца цуду" У. Гібсана (рэжысура У. Салюка), — на тэму не тое каб забароненую, але ніяк не прынятую, не жаданую за мінулым часам на падмостках дабрабытнага савецкага дзіцячага тэатра. Гісторыя слепаглуханямой дзяўчынкі ўжо не раз вабіла тэатры (пастаноўкі ажыццяўляюцца і дагэтуль у самых заможным і самых, мовім так, нетэатральных краінах). Яе ўвасабленне беларускімі майстрамі прызнана беззаганным, а таксама вартым доўгага сцэнічнага веку. Тэатральныя спецыялісты, адзначыўшы работы Веры Кавалеравай, Раісы Астрадзінавай, Веры Зотавай і Алены Галібінай, Аляксандра Мінаева і Іллі Ілліна (увогуле ў зладжаным калектыве расіян вылучаць кагосьці выпадала толькі паводле, так бы мовіць, аб'ёму спраўджанае ролі), Шарлоты Кнапштайн, Герда Рытара і Клауса Гэррэ, сведчылі пра шматлікія вартасці мастацкай праграмы трыянале. Мадэст Абрамаў і Ігар Андрэеў, прыняўшы віншаванні, падтрымалі і ідэю, і праект стварэння міжнароднай лабараторыі для вывучэння і вырашэння праблем дзіцячых тэатраў. Дзіця, шукаючы адказаў на самыя далікатныя пытанні, — падкрэсліваў у сваім выступленні Мадэст Абрамаў, — не заўсёды можа разлічваць не тое што на дарослых, але нават на ўласную сям'ю. Абавязак тэатра (насуперак вуліцы, двару, кіно, тэлебачанню) — не адкінуць, не абысці, не забараніць тэму, праблему, пытанне, а перш-наперш — абараніць самое дзіця... Хоць бы сродкамі мастацтва. Калі не мастацтва, дык... хто?

Пытанне часу. Пытанне на ўсе часы?..

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

*На здымках: сцэны са спектакляў "Першае каханне..." Р. Фінке і "Вечарына рускіх вадэвіляў".*

*Фота Віктара СТРАЛКОЎСКАГА*

# І КРЫТЫКІ КРЫЧАЛІ “БРАВА”...

***Першага лістапада Львоў сустракаў сваіх гасцей цёплым сонечным надвор'ем і новым павышэннем цэн. На міжнародны тэатральны фестываль "Залаты леў–94" у горад збіраліся тэатральныя калектывы з розных бакоў свету: з Бруселя і Кіева, Пярмі і Ашхабада, Масквы, Вільні, Якуціі, Вялікабрытаніі і яшчэ, і яшчэ. Усяго ў "злёце" ўдзельнічала каля 30-ці труп.***

Арганізатары фестывалю — усмешлівыя людзі з надпісам “Hello” на візітнай картцы — работнікі Львоўскага Духоўнага тэатра “Уваскрашэнне”. Дырэктар “Залатога льва” — мастацкі кіраўнік тэатра Яраслаў Федарышын. Яму больш за ўсё і не пашанцавала з павышэннем цэн у дзень адкрыцця. Каб разлічыцца за ўздаражэлую гасцініцу, ён вымушаны быў узяць ссуду пад залог будынка свайго тэатра... Гераізм?! Але, як высветлілася, апраўданы.

Фестываль удаўся! Гэта было бачна па абавязковых аншлагах на ўсіх шасці пляцоўках усе 10 дзён. У рамках свята праходзілі і вулічныя шэсці, і выстаўкі мастакоў, і творчыя сустрэчы з вядомымі артыстамі (напрыклад, з А. Пятрэнкам, А. Рогаўцавай...).

“Залаты леў” сёлета праходзіў ужо трэці раз. Але ўпершыню — са статусам міжнароднага.

Рэспубліка Беларусь не ўпершыню была прадстаўлена на фестывалі (калісьці там брала ўдзел трупа М. Трухана). Цяпер быў запрошаны мінскі Альтэрнатыўны тэатр. Мінчукі прывезлі два свае знакамітыя спектаклі: “Кароль памірае” Э. Ёнэскі і “Камедыю...” У. Рудава па творах К. Марашэўскага і Ф. Аляхновіча. Напэўна, спалучэнне менавіта гэтых спектакляў, якія належаць да палярных жанраў (парадаксальная трагедыя і камедыя), найбольш поўна можа прадэманстраваць творчыя магчымасці калектыву.

У назве фестывалю ўказваецца, што ён арыентаваны на маладзёжныя і эксперыментальныя тэатры. У плане “ўзроставага” складу ўдзельнікаў вызначэнне зусім апраўдалася: амаль усе прадстаўленыя тэатры — калектывы маладыя. З эксперыментам было горш, хоць ён і не быў выключаны цалкам.

Гаворачы аб прэм'еры, прапанаванай гаспадарамі фестывалю, тэатрам “Уваскрашэнне”, — “Пачатак жаху” У. Шаўчука (рэжысёр Я. Федарышын), крытыкі і гледачы ветліва адзначалі цікавасць тэмы і наракалі на складанасць перанясення матэрыялу аповесці-першакрыніцы на сцэну.

Чакалі шуму-гвалту ад прывезенага Р. Вікцюком спектакля “Рагатка” паводле п'есы В. Каляды. Скандал быў. Думкі падзяліліся на палярна-супрацьлеглыя. Бюлетэнь фестывалю, што выходзіў праз дзень, змясціў і захопленыя вершы гледача, прысвечаныя Р. Вікцюку, і ў другім нумары, далёка не ўхвальныя, нават крыўдныя водгукі пра ягоны “спектакль-рэпетыцыю” (так рэжысёр вызначаў жанр сваёй пастаноўкі).

Адкрыццём для бальшыні гасцей сталіся спектаклі Львоўскага Маладзёжнага тэатра імя Леся Курбаса. Пра “Забавы для Фаўста” паводле Ф. Дастаеўскага санкт-пецярбургскі крытык Ю. Кобец, напрыклад, сказаў так: “Калі ў горадзе ёсць такі спектакль, то здаецца, што “свет перакуліўся”, здзейсніўся тапаграфічны зрух і тэатральныя сталіцы перамясціліся, памяняліся месцамі. Не ведаю, што скажуць мае калегі з Масквы, але ў нашым правінцыйным Пецярбурзе такіх спектакляў проста няма... Я ўпершыню ў жыцці крычаў “брава”.

Дарэчы, мастацкаму кіраўніку тэатра імя Л. Курбаса В. Кучынскаму падчас фестывалю прасвоілі званне заслужанага дзеяча мастацтваў Украіны.

Пад заслону “Залатога льва”, у два апошнія дні, практычна ўсіх чакала радаснае адкрыццё — спектаклі мінскага Альтэрнатыўнага тэатра. Арганізатары фестывалю сцвярджаюць, што яшчэ не было выпадку, каб адзін тэатр сабраў столькі прызоў, як гэта ўдалося беларускай трупе. Журы не сумнявалася, што пальму першынства трэба аддаць АТ, але не магло выбраць: якому з спектакляў тэатра. “Камедыя...” (рэжысёр А. Андросік) аказалася першай на фестывалі па яркасці, самабытнасці, гумары, бліскучасці акцёрскіх работ. “Кароль памірае” (рэжысёр В. Грыгалюнас) здзівіў арыгінальнай, незвычайнай формай, нестандартным рэжысёрскім рашэннем, глыбінёй філасофскай думкі.

Альтэрнатыўны тэатр атрымаў гран-пры “Залатога льва” за фестывальную праграму. Акцёр Ігар Забара — праз журы за лепшую мужчынскую ролю караля Беранжэ І з “Караля...”. А. Артур Шуляк, выканаўца ролі селяніна Дзяменція ў “Камедыі...” — прыз Кіеўскага СТД.

Калі на ўрачыстым закрыцці “Залатога льва” быў названы Альтэрнатыўны тэатр, і яго мастацкі кіраўнік узняўся на сцэну, у зале распачалася авацыя. Дарэчы, той пецярбургскі крытык, які ўпершыню ў жыцці крычаў “брава” на спектаклі Львоўскага тэатра імя Л. Курбаса, на тым самым фестывалі крычаў яго яшчэ тройчы: на абодвух спектаклях Альтэрнатыўнага і на цырымоніі ўручэння мінскім акцёрам прызоў “Залатога льва”.

**Аксана МІХЕЕВА**





*На здымках: Ігар Забара ў ролі караля Беранжэ І; Артур Шуляк у ролі Дзёмкі.*

*Фота Алены ЕЖАНКОВАЙ і Алены АДАМЧЫК*

# СВЯТА “ЧЫРВОНЫХ ГВАЗДЗІКОЎ”

***У актавай зале Беларускага эканамічнага універсітэта сабралася звычайная публіка — студэнты, выкладчыкі, нешматлікія госці. Усе яны з цікавасцю паглядалі на святочна апранутых мужчын, якія размясціліся на першых радах і з хваляваннем чакалі пачатку вечара. Гэта сённяшнія імяніннікі — удзельнікі мужчынскага вакальнага ансамбля дацэнтаў і прафесараў "Чырвоныя гваздзікі", якому споўнілася дваццаць гадоў.***



Калісьці, у час падрыхтоўкі да чарговага агляду мастацкай самадзейнасці, утварыўся гэты калектыў.

— Здаецца, гэта было зусім нядаўна, хаця прайшло шмат часу, — успамінае нязменны кіраўнік ансамбля заслужаны работнік культуры Сяргей Галаўко. — Сваё “імя” калектыў атрымаў ад назвы першай песні ў нашым рэпертуары. Спачатку ў ансамблі было сем чалавек, затым — шаснаццаць, цяпер ужо — дваццаць два.

У свой час Сяргей Аляксандравіч скончыў вакальнае аддзяленне Мінскага музычнага вучылішча. Потым спяваў у хорах Г. Цітовіча, Белтэлерадыё. Пазней скончыў Інстытут замежных моў і прыйшоў выкладаць французскую мову ў Інстытут народнай гаспадаркі.

— Калі быў арганізаваны наш ансамбль, мне прапанавалі стаць яго кіраўніком, — расказвае С. Галаўко. — Маўляў, у нас жа ёсць прафесіянал. Я падумаў і згадзіўся. Паступова гэтая праца мяне вельмі захапіла. Як вакаліст, шмат увагі ўдзяляю працы над гукам, пастаноўцы голасу, нюансіроўцы, дыкцыі.

Поспех не прымусіў доўга сябе чакаць. Праз чатыры гады ансамбль “Чырвоныя гваздзікі” заняў першае месца на конкурсе мастацкай самадзейнасці сярод калектываў вышэйшых навучальных устаноў. З таго часу пачалі запрашаць на самыя ганаровыя адказныя канцэрты. Часта выступае ансамбль і ў сваёй роднай ВНУ. Выязджае з канцэртамі да сельскіх працаўнікоў. Зусім нядаўна спевакі канцэртавалі ў Пухавіцкім раёне. Нярэдка бываюць і ў Чэрвеньскім — над гэтым раёнам шэфствуе калектыў эканамічнага універсітэта. Выступалі ў Польшчы і зараз рыхтуюцца паехаць у гэтую краіну зноў.

Чатырнаццаць гадоў назад ансамбль атрымаў званне народнага і ўжо чатыры разы пацвярджае яго. Кіраўніку “Чырвоных гваздзікоў” Сяргею Галаўко ў 1987 г. нададзена ганаровае званне заслужанага работніка культуры.

...У той святочны вечар шмат добрых, шчырых слоў пачулі ў свой адрас юбіляры. Іх цёпла віншавала кіраўніцтва эканамічнага універсітэта. Дарэчы, удзельнікі ансамбля не могуць паскардзіцца на недахоп увагі ці дапамогі з боку начальства.

Сардэчныя пажаданні выказалі ўдзельнікам ансамбля прадстаўнікі універсітэта культуры. Вясёлыя жарты, гумар гучалі ў віншаваннях жаночага вакальнага ансамбля педагогаў “Элегія” і студэнцкага тэатра мініяцюр. Потым узяў слова маэстра харавых спеваў Віктар Роўда:

— На працягу многіх гадоў на аглядах харавой мастацкай самадзейнасці я ўзначальваў журы і заўсёды ганарыўся гэтым таленавітым калектывам. Нядаўна ён чацвёрты раз пацвердзіў сваё званне народнага. Сёння як і раней ансамбль гучыць цудоўна.

І прысутныя пераканаліся ў гэтым. З кінакадраў дакументальнай стужкі пра ансамбль і непасрэдна са сцэны гучала адна і тая ж песня — “Чырвоныя гваздзікі” — своеасаблівая візітоўка калектыву. І даўняе выкананне, і сённяшняе былі па-свойму цудоўныя. Аднак, на мой погляд, у цяперашнім гучанні з'явіліся новыя фарбы, якія ўнеслі экспрэсіўнасць, моц, свежасць. А яшчэ — зачароўвала слухачоў выкананне песні самадзейнага кампазітара П. Шаўко на тэкст Г. Цітовіча “Наш Нёман”. Амаль нікога не пакінула абыякавым вядомая ўкраінская народная песня “Гляджу я на неба”. Ярка, выразна, артыстычна выканаў яе саліст С. Васкоўскі ў суправаджэнні ансамбля. Разам са спевакамі падзяліў поспех акампаніятар — баяніст У, Вараб'ёў.

Некалькі народных песень — беларуская, польская, літоўская — прагучалі акапэльна. Галасы спевакоў уражвалі свежасцю, сакавітасцю, гармоніяй: яркае, чыстае гучанне тэнараў адцянялі барытоны, басы.

З асаблівым пачуццём, як туга па маладосці, была выканана армейская песня “Нічога не гаварыла”, у якой цудоўна саліраваў Г. Захараў. Гэтая лірычная песня нагадвае Георгію Захаравічу далёкі ваенны час, калі ён хлапчуком трапіў у партызанскі атрад. Вядома ж, што смеласць юнака на мяжы рызыкі вельмі была патрэбная на вайне, і ён стаў партызанскім разведчыкам. У ансамблі спявае яшчэ адзін удзельнік Вялікай Айчыннай Барыс Ільіч Любчэўскі, які ў войсках пяхоты прайшоў дарогамі вайны па тэрыторыях Венгрыі, Германіі. Гэтым пасівелым мужчынам, безумоўна, ёсць пра што расказаць студэнцкай моладзі. Вось чаму асаблівы сэнс укладваюць яны ў выкананне вакальных твораў вядомага нашага кампазітара, таксама ўдзельніка Вялікай Айчыннай вайны, У. Алоўнікава — “Брэсцкая крэпасць”, “Лясная песня”, “Даватар”.

Разуменне таго, што ў наш нялёгкі час песня не толькі ўпрыгожвае жыццё, але і дае магчымасць узвышацца над будзённымі праблемамі, дапамагае спевакам трымацца, не старэць. Ці не таму выглядаюць яны зграбнымі, падцягнутымі, значна маладзейшымі за свой узрост.

Сёння лічаць за гонар прыходзіць у свой калектыў, спяваць у ім былыя ўдзельнікі ансамбля, якія ўжо не працуюць у эканамічным універсітэце. Так, напрыклад, у гэты святочны вечар далучыўся да спевакоў уладальнік прыгожага баса, цяперашні рэктар Акадэміі фізкультуры і спорту В. Сакалоў.

Радасць ад мастацтва дапамагае “Чырвоным гваздзікам” перажыць сённяшнія цяжкасці, духоўна перамагчы іх.

**Вера КРОЗ**

## "ВЯЛІКАЕ БУДАЎНІЦТВА"



Незвычайнае свята з такой назвай, у якім кожны — удзельнік дзеяння, падарыла мінскай дзятве дацкая фірма "Лега". У ігравыя залы, што абсталяваны ў фае і на сцэне Дзяржаўнага рускага драматычнага тэатра імя М. Горкага, запрасілі адначасова каля шасцісот дзяцей. З дэталяў канструктараў яны будавалі усё, на што здольна дзіцячая фантазія. А на сцэне тым часам пад кіраўніцтвам дызайнера фірмы "Лега" агульнымі намаганнямі ўзводзіўся сярэдневяковы замак.



*На здымках: на дзіцячым свяце "Вялікае будаўніцтва".*
*Фота Аляксея МАЦЮША ("ЛіМ"), Віктара ТАЛОЧКІ (БЕЛІНФАРМ)*

# Георгій КОЛАС

18 снежня, на 66-м годзе жыцця, памёр пісьменнік Георгій Колас.

Георгій Данілавіч Колас нарадзіўся 26 лютага 1929 г. у вёсцы Куцень Чэрвеньскага раёна Мінскай вобласці ў сялянскай сям'і. Вясной 1930 г. у сувязі з калектывізацыяй і раскулачваннем разам з бацькамі сасланы на спецпасяленне ў Гаінскі раён Комі-Пярмяцкай нацыянальнай акругі. Вызвалены 14 верасня 1945 г. У 1945 г. скончыў філалагічны факультэт Кудымкарскага настаўніцкага інстытута, у 1951 г. — акцёрскі факультэт Беларускага дзяржаўнага тэатральнага інстытута. Два гады працаваў акцёрам Дзяржаўнага рускага драматычнага тэатра імя М. Горкага ў Мінску. Затым быў супрацоўнікам газеты "Сталинская молодежь", аспірантам Інстытута літаратуры і мастацтва Акадэміі навук Беларусі. У 1955—1961 гг. — галоўны рэдактар па рэпертуары драматычных тэатраў у Міністэрстве культуры рэспублікі, загадчык метадычнага кабінета культасветработы Белсаўпрофа. У 1961—1964 гг. — літсупрацоўнік газеты "Літаратура і мастацтва", у 1967—1971 гг. — рэдактар аддзела крытыкі, бібліяграфіі і мастацтва часопіса "Нёман".

З рэцэнзіямі, артыкуламі пра тэатральнае мастацтва і драматургію пачаў выступаць у 1953 г. Аўтар кнігі "Современник в гриме и без грима", зборніка артыкулаў "Диалог через рампу", шэрагу брашур. Яго пяру належаць таксама шматлікія артыкулы аб старажытных беларускіх інтэрмедыях, аб творчасці сучасных беларускіх драматургаў. Яго працы вызначаюцца прафесійнасцю, глыбінёй аналізу, тонкім адчуваннем мастацтва. На яго творчым рахунку каля трыццаці сцэнарыяў дакументальных, навукова-папулярных кіна- і тэлефільмаў.



Георгій Колас быў шчырым і прынцыповым чалавекам, чулым таварышам. Такім ён назаўжды застанецца ў сэрцах сяброў і ўсіх, хто яго ведаў.

**Саюз пісьменнікаў Беларусі.**

# Мікалай РЫЖАНКОЎ

Беларускае выяўленчае мастацтва панесла вялікую страту. 8 снежня раптоўна памёр выдатны беларускі мастак, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР, заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь, скульптар Мікалай Рыжанкоў.

Мікалай Аляксеевіч Рыжанкоў нарадзіўся 14 сакавіка 1932 года ў в. Гладкова Чавускага раёна Магілёўскай вобласці. Пасля вучобы ў Ленінградскім Вышэйшым мастацка-прамысловым вучылішчы імя В. Мухінай да апошніх дзён свайго жыцця працаваў на Радзіме. Галоўная тэма творчасці Мікалая Аляксеевіча — гераічная гісторыя беларускага народа. Ім створана значная колькасць работ. Многія з іх увайшлі ў залаты фонд беларускага выяўленчага мастацтва. Мастак плённа вырашаў шматлікія тэмы ў манументальнай і станковай скульптуры, медальерным мастацтве, дробнай пластыцы.

М. Рыжанковым створаны шэраг помнікаў, у тым ліку Герою Савецкага Саюза Л. Даватару ў в. Хоціна Бешанковіцкага раёна, партызану М. Гойшыку ў Івацэвіцкім раёне, ахвярам фашызму ў Барысаве, партызанам Віцебшчыны ў Віцебску, Герою Савецкага Саюза А. Нікандравай у Дуброўне Віцебскай вобласці, мемарыяльны комплекс "Рыленкі" ў Дубровенскім раёне.

Створаны М. Рыжанковым (у сааўтарстве) помнік у гонар Маці-патрыёткі ў Жодзіне з'явіўся не толькі значнай старонкай манументальнага летапісу Беларусі, але і стаў сімвалам мацярынскага болю нашага народа, які страціў лепшых сваіх сыноў у барацьбе з ворагам за шчасце і волю Айчыны. За гэты помнік мастак атрымаў Дзяржаўную прэмію СССР.

М. Рыжанкоў аўтар шматлікіх станковых кампазіцый — як "Вайна 1812 г.", "Партызаны", "Дзеці", "Новае Палессе", "Не вярнуліся", "Мацяркам, жонкам і сёстрам"; рэльефаў "Шлях героя", "Навекі разам", "Парад партызан у Мінску ў 1944 г.", "Юнацтва" і іншых.

Доўгі час Мікалай Аляксеевіч з'яўляўся старшынёй бюро секцыі скульптуры Саюза мастакоў Беларусі, неаднаразова выбіраўся членам праўлення творчай арганізацыі.

Аматары мастацтва, прадстаўнікі творчых саюзаў, яго калегі па секцыі скульптуры ведалі М. Рыжанкова як ініцыятара цікавых і неабходных людзям пачынанняў. Ён прымаў актыўны ўдзел у справах адраджэння нацыянальнай культуры. Ім створаны мемарыяльная дошка М. Гусоўскаму, рэльефы, прысвечаныя вядомым асветнікам Беларусі эпохі Адраджэння, помнік М. Гарэцкаму.

За значныя дасягненні ў выяўленчым мастацтве скульптар узнагароджаны ордэнам Знак Пашаны.

Светлы вобраз Мікалая Аляксеевіча Рыжанкова, выдатнага дзеяча нацыянальнага выяўленчага мастацтва, назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

**Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь**

**Саюз мастакоў Рэспублікі Беларусь**

## ВЕНІЯМІНУ РУДАВУ — 80



**Веніямін Рудаў — родам з Украіны, нарадзіўся ў сяле Долінскае Ананьеўскага раёна Адэскай вобласці. У 1931 годзе закончыў сярэднюю школу, пачаў працаваць настаўнікам. На доўгі час (1936—1962) звязаў свой лёс з пагранічнымі войскамі, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. У 1965—1970 гадах працаваў рэдактарам на рэспубліканскім радыё, а з 1970 па 1977 — літаратурным кансультантам газеты "Вячэрні Мінск".**

**Літаратурнай працай займаецца з 1954 года. Піша па-руску, хоць першую аповесць "Прыгоды на энскай заставе" (Львоў, 1957) напісаў па-ўкраінску. Кнігі В. Рудава выходзілі неаднаразова як у Маскве, так і ў Мінску — "Тусклое золото", "Вьюга", "Последний зов", "Черная Ганьча", "Капкан" і іншыя. Асноўная тэма — паказ няпростай службы тых, хто стаіць на абароне рубяжоў Айчыны. Праўдзіва расказаў В. Рудаў пра пагранічнікаў розных пакаленняў. І тых, хто змагаўся з ворагам у суровыя дні, калі над Радзімай навісла ваенная небяспека, і хто нясе службу ў мірны час.**

**Віншуем Веніяміна Сямёнавіча з 80-годдзем! Зычым яму і надалей заставацца ў актыўным жыццёвым і творчым страі!**

# "ПАДАВАЦЬ ФАКТЫ І ПАДЗЕІ ЯК МАГА АБ'ЕКТЫЎНА, ЛЕТАПІСНА, БЕЗАЦЭНАЧНА"

*(Пачатак на стар. 5)*

раней некаторыя, як шаблямі размахвалі цытатамі з Маркса і Леніна, сачылі, каб, не дай Бог, хто-небудзь не парушыў партыйнай лініі, дык цяпер... Нeяк заходзіць да мяне ў кабінет адносна малады чалавек, называе сябе археолагам, кладзе на стол ліст. Чытаю — выяўляецца, што гэта кандыдат навук, ён лічыць сябе дыскрэдытаваным як вучоны, бо ў яго артыкулах, змешчаных у "Археалогіі і нумізматыцы Беларусі", ёсць недакладнасці і адступленні ад таго, што ён пісаў. І таму ён патрабуе выплаціць яму "за нанесены маральны ўрон" даволі кругленькую суму. Спрабую тлумачыць аўтару — так, мы разбіралі гэтую справу. Супрацоўніцы, якая дапусціла вольнасць у абыходжанні з яго тэкстам, аб'яўлена вымова. Далі мы ў канцы кнігі і папраўкі. Мала гэта аўтару — плаці грошы! Але ж віну выдавецтва ў такім выпадку, як, дарэчы, і суму грошай "за маральны ўрон" павінен устанаўліваць не аўтар, ды і не галоўны рэдактар, а суд! Доўгая мая размова заканчваецца пагрозай: "Вы яшчэ ўспомніце мяне, я пастаўлю вас на калені!" Ці вось другі прыклад. Некалькі гадоў назад ў Энцыклапедыю ўзялі супрацоўніцу. Да гэтага яна закончыла універсітэт, вучылася ў аспірантуры АН, працавала ў музеі Максіма Багдановіча. З узнікненнем Беларускага народнага фронту стала яго актывісткай. Маладую энергічную супрацоўніцу заўважылі, прызначылі загадчыцай рэдакцыі. Здавалася б, працуй на адраджэнне роднай культуры. Аж не. Што ні даручы — пасняхова праваліць. Даручылі падрыхтоўку энцыклапедыі "Максім Багдановіч" — наадрэз адмовілася гэтым займацца. Захацелі выдаць у серыі "Энцыклапедычная бібліятэка школьніка" даведнік "Беларуская мова" — не ўзялася гэта рабіць. Тры слоўнікі для Універсальнай і то не змагла па-належнаму падрыхтаваць. Уся дзейнасць загадчыцы звялася да пісання "дакладных" на сваіх падначаленых, вайны з імі. Давялося пазбавіцца ад такой "загадчыцы". І што? Паляцела скарга ў самыя высокія інстанцыі. Вядома, сябе былая загадчыца выставіла вялікай абаронцай справядлівасці. Што ж да кіраўніцтва "Беларускай Энцыклапедыі", дык яно, паводле слоў "пакрыўджанай", займаецца ні больш ні менш як "злачыннай" дзейнасцю — збіраецца выдаваць універсальную энцыклапедыю, хоць гэта, маўляў, ніяк нельга рабіць — дорага, ды і час для такога выдання не саспеў. Словам, разважае як старая пенсіянерка бальшавіцкага гарту... Але "пакрыўджаную" пасля гэтага ліста заўважылі, узялі на працу ў прэзідэнцкую каманду. Вось вам і актывістка народнага фронту!

Наогул, на антыбеларускай справе і раней рабілі сабе кар'еру многія. Спрабуе гэта рабіць сёй-той і цяпер, забываючы, чым канчалася такое. Хвала Богу, пераважная большасць і аўтараў, і супрацоўнікаў "Беларускай Энцыклапедыі" — людзі высокай маральнай чысціні, дасведчаныя і высокакультурныя, патрыёты Бацькаўшчыны. Таму, можа, і беларускі энцыклапедычны цэнтр сёння — адзін з самых аўтарытэтных і вядомых не толькі ў СНД, але і ў Еўропе. Да нас прыязджаюць вучыцца, пераймаць вопыт. Гэта зусім не значыць, што мы задаволены ўсім, што ў нас ёсць. Мяжы ж дасканаласці няма. Калісьці — і гэта вядома ўсім! — французскія энцыклапедысты, можна сказаць, вярнулі да жыцця Францыю. Беларускія энцыклапедысты таксама імкнуцца ў меру сіл і здольнасцей уносіць сваю лепту ў адраджэнне Беларусі.

**— Відаць, з вашым прыходам ў "БелЭн" прыйшлі і новыя людзі?**

— Так, прыйшлі, сяго-таго я назаву — гэта паэт Янка Сіпакоў, кандыдат філасофскіх навук С. Дубянецкі, кандыдат геаграфічных навук В. Кісель, кандыдат фізіка-матэматычных навук А. Болсун, кандыдат хімічных навук Л. Скрыпнічэнка... Усе яны выдатна працуюць. Але мэты такой я не ставіў — прывесці з сабой новых людзей. Я вельмі ж цаню ранейшых супрацоўнікаў, іх вопыт працы ў выдавецтве — гэта неацэннае багацце, якім яны шчодра дзеляцца з навічкамі. У спалучэнні вопытных кадраў з новымі толькі і можна дасягнуць мэты.

**— Адчуваю, вы не шкадуеце, што сталі галоўным рэдактарам такога аўтарытэтнага выдавецтва?**

— Страціўшы галаву, па валасах не плачуць. Ды і шкадуй не шкадуй, а працаваць трэба. Адчуваю вялікую адказнасць і за тыя выданні, над якімі працуем і якія хочацца выдаць, і за калектыў, які аддае ўсе свае сілы дзеля любімай справы. Забяспечыць людзей зарплатай і ўсім неабходным — гэта клопат Галоўнай рэдакцыі і яе кіраўніка. Ды і напрамак правільны выпрацаваць, стратэгію выдавецтва...

**— А як адчувае сябе ў такіх варунках творчая праца Сачанкі-пісьменніка?**

— На жаль, часу на творчасць пісьменніку Сачанку не застаецца. Два гады не быў у адпачынку. Прыходжу ў выдавецтва часта раней за ўсіх, пакідаю працу часта пазней за ўсіх. Не думаў, што распрацоўка новых выданняў і 18-томнай "Беларускай Энцыклапедыі" зойме столькі часу! Ды і размовы з супрацоўнікамі і аўтарамі, усталяванне новых поглядаў на з'явы і факты — ох, колькі гэта патрабуе сіл, такту, цярпення і волі!

**— З якімі новымі вашымі творамі мы зможам пазнаёміцца ў бліжэйшы час?**

— У канцы гэтага года ці ў пачатку наступнага выйдзе трэці том майго "Выбранага". Разам з раней выдадзеным двухтомнікам гэта будзе пяць тамоў лепшага, што я напісаў у прозе. Па-за гэтым пяцітомнікам засталіся нарысы, гістарычныя і літаратурныя эсэ, успаміны. Гэта яшчэ тры тамы! Два гады ляжыць у выдавецтве "Мастацкая літаратура" новая мая кніга "Пад сузор'ем сярпа і молата". Напісалася і яшчэ адна кніга. Але ці буду я ў бліжэйшы час яе друкаваць — пакажа час...

*Інтэрв'ю ўзяў*
**Алесь МАРЦІНОВІЧ**





# ЦІ МОЖНА ПАДАРЫЦЬ... МАРУ?

*(Пачатак на стар. 1)*

**І нядаўняя прэм'ера — "Дон Кіхот". Вялікай павагі заслугоўвае тое, што балетны калектыў тэатра бярэцца за ўвасабленне сур'ёзных твораў, якія даюць артыстам магчымасць для творчага росту. А ў нас жа танцуюць зусім юныя выпускнікі Беларускага харэаграфічнага вучылішча, якія, безумоўна, марылі пра вялікую сцэну, пра класічныя партыі... Мара здзейснілася, у іх ёсць магчымасць цікава творча працаваць, развівацца ў прафесіі, чаго практычна не даваў жанр музкамедыі іхнім папярэднікам. Трапіць на акадэмічную сцэну, у ДАВТ, шанцуе не ўсім, альтэрнатывы ж дасюль не было, хаця, напрыклад, у Маскве ёсць не толькі Вялікі тэатр, а яшчэ каля чатырох дзесяткаў балетных калектываў і кожны з іх даводзіць свае права на жыццё ў мастацтве".**



**Будзем лічыць, што "альтэрнатыва" з'явілася і ў нашай краіне. "Дон Кіхот" Л. Мінкуса ў сцэнічнай рэдакцыі ды пастаноўцы сусветна вядомай "зоркі" Любові Кунаковай і Сяргея Штыкава захаваў усе іскрынкі класічнай харэаграфіі А. Горскага, але атрымаўся зусім адметным, дынамічным, кампактным, разлічаным на невялікі выканаўчы склад, спектаклем. Радуе, як прыгожыя малюнкі ў кніжцы, афармленне (сцэнаграфія І. Нежнага, касцюмы Т. Тулуб'евай). Годная праца дырыжора-пастаноўшчыка В. Чарнухі. Не шкадуе публіка далоні, вітаючы захоплены тэмпераментны дуэт Юлі Дзятко (Кітры) ды Кастуся Кузняцова (Базіль), іх чароўных партнёрак Л. Кісялёву (Вулічная танцоўшчыца) ды В. Іванчанку (Мерседэс), дасціпных партнёраў А. Якуціка (Ларэнца) ды У. Крупскага (Гамаш). Апладысментамі не абдзелена і хрэстаматыйная пара — Дон Кіхот (Г. Казлоў) ды Санча Панса (К. Чушкін). Вось, бадай, і ўсё, што можна дадаць да "чароўных імгненняў" спектакля, адлюстраваных на здымках.**

**С. ВЕТКА**

***Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА***





# НОВЫЯ СТАРОНКІ

## ВІЦЕБСКАЯ СНЯЖЫНКА



**Зноў сабраў гасцей конкурс "Віцебская сняжынка". На традыцыйны міжнародны конкурс спартыўнага бальнага танца прыехалі 115 пар з Мінска, Гродна, Масквы, Ніжняга Ноўгарада, Санкт-Пецярбурга, Рыгі, Каўнаса. Яркае, экспрэсіўнае відовішча прывабіла тысячы прыхільнікаў.**

*На здымку: фрагмент конкурсных выступленняў.*

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛІНФАРМ*

## "РАНІЦА" УЛАДЗІМІРА КУДРЭВІЧА

**Біяграфія Уладзіміра Кудрэвіча (1884—1957), выдатнага жывапісца, каларыста, як кажуць, ад бога, вядомая. Але выстава яго творчасці, што адбылася ў Нацыянальным мастацкім музеі, стала адкрыццём. Не столькі імені мастака, колькі таго эмацыянальнага штуршка, які выклікае яго слынная карціна "Раніца вясны" (1927). Яна, як адзначыў М. Шчакаціхін, стала водападзелам, пачаткам новага этапа ў беларускім жывапісе. Празрысты колер, лёгкі мазок, адчуванне радасці, складаная і ў той жа час дакладная кампазіцыя, імпрэсіяністычнасць светаадчування даюць уяўленне пра вышыню жывапісных дасягненняў таго часу. І пра тое, як многа страціла беларускае мастацтва, калі ад усяго творчага багацця 20-х — пачатку 50-х гг. У. Кудрэвіча пасля вайны засталася толькі адна работа, ды і то ацалелая дзівам сярод папялішчаў мастакоўскага дома ў Мінску.**

**Уладзімір Кудрэвіч пасля напісаў яшчэ шмат раніц. У іншым стылі, манеры. Таму што ішлі трыццатыя ды пяцідзесятыя. Але тым не менш захаваўся ён як майстар пэндзля, не знікла знаёмая празрыстасць і лёгкасць, засталося пачуццё прыгажосці наваколля. І гэта ўражвае нейкай сапраўднай, не культаванай жыццесцвярджальнай сілай.**

**Н. Ш.**

## ТЭАТР — У ТЭАТРЫ

**Акурат так можна сказаць пра спецыяльную праграму "Тэатр-ліцэй", што ажыццяўляецца ў Беларускім рэспубліканскім тэатры юнага гледача. Гэта свайго роду ўрокі-спектаклі, якія адрасуюцца школьнікам. Вучні сталіцы дагэтуль маглі пазнаёміцца са спектаклямі "І прыйдзе новых пакаленняў...", у цэнтры якога той Янка Купала, пра якога да нядаўняга часу мы ведалі вельмі мала; "Абарваная песня" — у якім па-новаму прачытанае жыццё і творчасць Міхася Чарота.**

**І вось чарговы ўрок-спектакль. Гэтым разам пад назвай "Далучанасць". Аўтар п'есы А. Вольскі, звярнуўшыся да вобліку Алаізы Пашкевіч (Цёткі), глянуў на яе не як на хрэстаматыйную паэтэсу-рэвалюцыянерку, а на як выдатнага адраджэнца пачатку нашага стагоддзя, аднаго з тых, хто ўсё сваё свядомае жыццё адстойваў беларускасць, спрыяў таму, каб беларусы маглі "людзьмі звацца".**

**Ролю Цёткі выканала Л. Горцава, яе мужа С. Кайрыса — Л. Улашчанка, Ф. Багушэвіча — А. Курловіч, малодшай сястры паэтэсы Зосі — С. Баравік, нянькі Ягасі — К. Доўнар.**

**У спектаклі заняты і сам аўтар — паэт і драматург А. Вольскі. Да месца ў сюжэтнай канве прадстаўлення і ўрывак са спектакля "Рындачка" М. Крапіўніцкага. Тым самым адчуваецца яшчэ большая повязь часоў, паяднанасць дня ўчарашняга і сённяшняга. Як вядома, акурат у гэтым спектаклі, пастаўленым некалі трупай І. Буйніцкага, Цётка выконвала галоўную ролю.**

**Першымі гледачамі спектакля "Далучанасць" сталі старшакласнікі Мінска і настаўнікі горада. Яны па вартасцях ацанілі новую работу мастацкага кіраўніка ТЮГа М. Абрамава.**

*(Пачатак на стар. 9)*

значыць, не давядзецца — чэрап ды яшчэ раскроены... Хто? Чым? Дзе?.. "Хутчэй прыязджайце!" — і кінула трубку.

Прыязджаем. Звонім. Дзверы адчыняе жанчына. Гадоў пад сорак. З прыкметнай ужо сівізною. Апранутая пахатняму, сціпла, але ахайна. Не як іншы раз трапляеш... І кватэра як кватэра. Ніякага рэзруху ці слядоў бойкі. Толькі ў чыстым пярэднім пакоі ляжыць на канапцы і сапраўды скрываўлены мужык. У піжаме. У хатніх пантофлях на босую ногу. Прыціскае да галавы ручнік.

— Што здарылася? — пытаюся ў жанчыны.

— Спытайце ў яго.

— А ён здольны?..

— Здольны.

— Што здарылася, дарагі? — звяртаюся ўжо да мужчыны.

— Мне кепска...

Дзіва што кепска. Аглядаю пацярпеўшага. Фельчар звычайна дастае спірт, марлю. Рыхтуе ўкол.

— Ф-ю-у!.. Хто гэта яго так? Чым? Дзе?..

— Тут, у гэтым пакоі, — лаканічна адказвае жанчына.

— Доктар, мне нядобра, мне кепска...

Добрага сапраўды мала. Здараецца, праўда, і горш... Выпадак, аднак, не летальны.

— Дык, можа, нехта ўсё ж мне растлумачыць, што здарылася? Не на вуліцы ж, у канаве, падабраў я гэтага небараку і прывёз на гэту канапку?

— Ён сам вам усё раскажа. Ён жа не страціў прытомнасці.

Дзіўная, далажу вам, вытрымка ў гэтых жанчын! Колькі разоў за свой век падзівіўся я з іх... Але тут, у кватэры, з такой траўмай...

— А вы, дазвольце пацікавіцца, не здолееце даць мне патрэбнае тлумачэнне? — ужо не вытрымліваю, узрываюся я. — Кім вы даводзіцеся гэтаму чалавеку?

— Я яго жонка.

— Дык, можа, гэта справа вашых...

— Маіх, доктар... Але не бойцеся, я не збіраюся нікуды ні ўцякаць, ні хавацца ні ад кога.

— Вы паедзеце з намі.

— Не, я не паеду... А калі вы яго выпішаце, завязіце яго на адрас, які ён вам пакажа.

Мы зрабілі сваю справу. Апрацавалі рану. Наклалі павязку і павезлі хворага ў бальніцу. А жонка так і не паехала з намі. Сама дастала з сумачкі свой пашпарт, прадыктавала ўсе патрэбныя пашпартныя звесткі, а фельчар потым іх зверыў... А ў бальніцу — не паехала! Вось я і кажу вам: ну і характар часам мае ваша сястра!

...Вам, вядома, не церпіцца даведацца, што гэта была за гісторыя? Банальнейшая, далажу вам! З гатунку тых прымітыўных анекдотаў, у якіх муж абавязкова едзе ў камандзіроўку... "Паехаў у камандзіроўку" і гэты наш герой. На тыдзень паехаў... А сам паціхеньку атабарыўся, ну, не зусім каб у суседнім з уласным, пад'ездзе... Аднак у гэтым жа сваім, дзе ён жыў з жонкай і дзецьмі, доме. Якое тут дзіва, цяпер у гэтых мураваных муравейніках можна век звекаваць і не стрэць знаёмага чалавека... Жонка, хоць звычайна і даведваецца пра ўсё апошняя, на гэты раз здагадвалася. Праўда, не ўшчыняла вэрхалу... І вось тым вечарам, калі ўжо добра ўцямнела, калі ўвесь свядомы люд прыліп да "Проста Марыі" і ўсякі рух на двары вымер, у жончыны дзверы раптам пазванілі. І жанчына, як была на кухні ля пліты, так і паспяшала на той званок, як трымала яе, з патэльняй у руках (толькі — чаму?!.). І каго ж яна ўбачыла?.. Уласнага мужа! У піжаме. У хатніх пантофлях на босую нагу. І — уяўляеце? — з пустым вядром з-пад смецця!.. Гэта ён, гэтакі адданы каханак, паслугаваўшы каханцы, як стары звычны конь, замест звабнай сцежкі Амура, неўпрыкмет завярнуў на ўезджаную Гіменэеву дарогу...

Жонка вачам сваім спачатку не паверыла! Але на яе тут жа нібыта зышло азарэнне.

— Што піжаму і хатнія пантофлі пакаваў ты ў камандзіроўку, мне гэта было звычна і не дзівіла. Але каб ты яшчэ і памыйнае вядро з сабой прыхапіў!.. — і як трымала ў руках раскаленую патэльню — Бог ведае, што яна там на ёй пякла-смажыла, — так і гахнула ёю па галаве свайго Адоніса!

...У бальніцы яго, вядома, як мае быць зашылі і залаталі. Нехта нават раіў яму падаць на жонку ў суд. Але ён не падаў. Казалі, пабаяўся.

Суд прысяжных... Ён, ведаеце, — ч а с а м — ведае, каго сўдзіць, каго судзіць.

## ДЗЕЦІ

### (НАШЫ Ў ІТАЛІІ)

### 1. "Хачу спаць з бабаю!"

Віцька з-пад Прапойска гэтым летам ляцеў у Італію. А ўвогуле ў Еўропу ляцеў ён ужо трэці раз. Па-першае — зона. Па-другое, у Віцькі не было бацькоў (ці невядома, дзе зараз бавяць час і ладуюць свае жыцці іншыя цяперашнія — не такая ўжо гэта навіна — бацькі?), і ён жыў у бабы Антаніны. Па-трэцяе, была такая здагадка, што ў Прапойску знайшлася ўсё ж у Віцькі і важкая р у к а (Адзін толькі Бог святы ведаў, каму яна магла належаць?).

Кіраўнік аздараўленчай групы дзяцей, якая гэтым разам кіравалася з чарнобыльскай зоны ў Італію, праглядаючы спісы, калі дайшоў да Віцькавага прозвішча, толькі скрушна паківаў галавою:

— Няшчасная Італія, яшчэ і яна наплачацца з гэтым золатам!

Яўгенавіч — так карацей (каб не займаць доўга часу: Вячаслаў Яўгенавіч) звалі ўсе кіраўніка — Яўгенавіч, возячы такія групы па ўсёй Еўропе, ведаў і памятаў (дзіва дзіўнае!) кожнага свайго падапечнага не толькі ў твар, але і нораў кожнага ведаў, як сваіх уласных дзяцей.

— Ох, наплачацца! — і выпісаў сабе Віцькава прозвішча ў асобны нататнік — побач з іншымі — таксама "залатымі" — каб самому лішні раз даведацца яго, у італьянскай сям'і ўжо.

Віцька з-пад Прапойска — яму ўжо ішоў ці не восьмы год — быў па натуры непапраўны неслух і нэндза. Адразу з нараджэння, нібыта створаны ён быў толькі для таго, каб не інакш як выкручвацца і ныць: "Ай, не хачу! Не буду!..! І драць дарэмным плачам горла: "Не буду! Не хачу!.."

І вось гэта шчасце ляцела — на трэцяе ўжо еўрапейскае лета — у Італію. І ўжо ў самалёце паспела яно абрумзаць усю групу і добра скалануць нервы ўсім, хто яе вёз: і кіраўніку групы, і ўрачам, і перакладчыкам.

— Не хачу ў Італію!

— Не буду сядзець з Васькам!

— На чорта мне каля вакна!

— Хачу піць фанту!

Ён ужо ўсё ведаў! Лічы, паў-Еўропы аб'ездзіў чалавек: і ў Бельгіі пабыў, і ў Германіі... І вось не жадаў у Італію!

...У невялічкім італьянскім гарадку, на беразе Јанічнага мора, беларускіх б а м б і н і, як родных дзяцей, стрэлі шумныя добразычлівыя гаваркія італьянцы з падарункамі ў руках. У гурце ўласных дзяцей весела разбіралі яны іх па сем'ях і везлі дадому.

(У дужках трэба зазначыць, што браць на цэлы месяц чужых далёкіх дзяцей выказвалі жаданне найбольш сем'і бяднейшыя — па-італьянскіх мерках — сем'і з меншым дастаткам. У багатых, як і ўсюды на свеце, хапала клопату іншага, чым чужыя дзеці...)

Віцьку з-пад Прапойска — худзенькага, бледнага заморка ў аблезлых сініх шорціках і гэтакай жа мытай-перамытай некалі чырвонай кашульцы — ўхапіла першая і штосілы прыцягнула да свайго мяккага шырокага жывата рухавая немаладая сіньёра. У яе былі гэтакія ж, як і ў Віцькавай бабы Антаніны, сівыя валасы, але Віцькава баба была худая, і валасы ў яе былі нейкія як спечаныя ўсё роўна, і былі абы-як закручаныя на галаве. А ў гэтай італьянскай сіньёры валасы былі хоць і сівыя, але вакол галавы яны кружыліся, як маладая завіруха! І таму, напэўна, і сама яна была як маладая, а яго баба Антаніна была старая. Бо ў яе і плацця не было такога прыгожага, і пацерак бліскучых, як у сіньёры Барбары, не было.

— Mio piccolino! Mio sole! Mia gioia! (Маё ты дзіцятка! Маё сонейка! Мая радасць!)

Сіньёра Барбара тры месяцы як засталася ўдавою. Засталася адна на ўсе тры паверхі свайго апусцелага ўдовінага дому. Уласныя дзеці яе выраслі, у іх былі ўжо свае дзеці, свае сем'і, і жылі яны далёка, у іншых гарадах. І сіньёра Барбара адчувалася цяпер, пасля пахавання мужа так, нібыта апынулася пасля караблекрушэння адна на бязлюдным востраве. І вось святая Мадонна зжалілася і паслала ёй на ўцеху гэта чужое дзіця...

Віцьку з-пад Прапойска сіньёра Барбара адвяла цэлы паверх: спальню з мяккім пружыністым ложкам, з пуховымі падушкамі і коўдрай і дзяціны пакой для гульняў. У ім захоўваліся і трымаліся — да гэтага дня — кожная свайго месца ўсе цацкі яе ўласных дзяцей, з якімі гулялі яны, калі былі яшчэ малымі, як гэты худзенькі bambino...

Віцька з-пад Прапойска належным чынам ацаніў усё адразу: з нагамі ўзлез на пуховы пружыністы ложак і з адчайным рогатам пачаў гайдацца на ім, аж пакуль не спацеў. А пасля накіраваўся ў дзяціны пакой і таксама выказаў — па-свойму — уласныя адносіны да існуючага там сумнага парадку. За нейкае паўгадзіны ён перавярнуў усё дагары нагамі і паадкручваў і паадламваў усё, што толькі адкручвалася і ламалася.

Ружовая ад дзіўнага гарачага шчасця, сіньёра Барбара стаяла ў дзвярах, толькі ўсплёсквала рукамі і гучна смяялася і плакала:

— Vittorio! Mia gioia! (Вітторыа! Мая радасць!)

На вячэру Віцьку з-пад Прапойска яна выставіла ўсё, што толькі нагатавала, чакаючы яго і нават не ўяўляючы, які ён будзе. Віцька і за сталом надта не абмяжоўваў сябе. А яна з любасцю, аддаўшы найперш яму месца ў сваім сэрцы, як і не зважала на яго манеры і толькі паўтарала раз за разам:

— Vittorio! Mio bambino!

Віцька, як і яна яго, не разумеў сіньёру Барбару. Але пакуль што ім абоім хапала — для ўзаемнага паразумення! — і гэтых воклічаў.

— Ух ты! Здарава! — захоплена порхкаў пальцам у нейкае высачэзнае, як вежа, збудаванне з марозіва Віцька і аблізваў палец:

— Смаката!

І сіньёра Барбара яго добра разумела і залівалася шчаслівым смехам.

— Mia gioia! (Мая радасць!)

Пасля вячэры і ўсіх уражанняў, якія выпалі ім за цэлы дзень, стомленыя Віцька і сіньёра Барбара разышліся па сваіх паверхах, па сваіх спальнях. Віцька на трэці паверх. Сіньёра Барбара — на другі.

Віцька яшчэ пагойдаўся на ложку, пакуляўся цераз галаву і, да краечку перапоўнены здаволенасцю жыццём, адразу тут жа і заснуў.

Ноччу сіньёра Барбара прачнулася на сваёй, як палігон, неабсяжнай, сямейнай пасцелі ад тоненькага плачу і н е ч а г а худзенькага і настылага ў сябе пад бокам.

— Madonna! — толькі і ўсклікнула сіньёра Барбара, захінаючы ў гарачыя мяккія адбымкі гэта н е ш т а — кволае, худзенькае, настылае.

...Дома ў сябе Віцька з-пад Прапойска спаў заўсёды ў ложку са сваёй старою бабай Антанінай. Прачнуўся ён у чужой пасцелі, і яму зрабілася страшна.

— Хачу спаць з бабаю! — заплакаў Віцька і пайшоў шукаць яе...

— Vittorio! Mio sole! — суцяшала яго сіньёра Барбара, і Віцька хутка зноў заснуў у яе ласкавых абдымках.

Раніцай ён прачнуўся і яшчэ песціўся ў пярынах, як з падносам на руках, несучы яму ў пасцель сняданак, з'явілася на парозе сіньёра Барбара.

— Buona matina, Vittorio! Buon appetito! (Добрай раніцы, Вітторыа! Прыемнага апетыту!)

Віцька, як кот, пацягнуўся, і з галавою нырнуў пад пуховую коўдру:

— Не хачу тут есці! Не буду!..

## 2. Нікола Паганіні

Яны ляжалі на пляжы і назіралі, як плавалі ў моры двое хлапчукоў.

— Як дэльфіны ныраюць! — захоплена ўсклікнуў бацька-італьянец.

— Як дэльфіны... — без усякага выразу на твары згадзіўся італьянец-сын.

— Адкуль гэтыя хлопцы?

— Чарнобыль, відаць, — лаканічна адказаў сын.

— Чарнобыль... — паўтарыў бацька, і ў вачах нібыта прытух яго паўднёвы жар.

— На каго ён падобны? Гэты высокі, засмалены? — паказаў ён на аднаго з хлапчукоў, калі яны выйшлі з мора.

— На каго? На каго... На Нікола Паганіні! Гэтакі ж графічны профіль!.. — у захопленым здзіўленні аж ускочыў з месца сын.

— Профіль... Ды не! Нікола быў шчуплы і малы. А гэты вунь якое вудзільна!

— І гэты худы.

— Гэты ростам большы... — не згаджаўся бацька, нібыта быў добра знаёмы ці зусім нядаўна страчаўся з ім, з тым сапраўдным Нікола Паганіні.

— Паслухай! — звярнуўся да самім ім вынайдзенага Паганіні юны італьянец, звярнуўся спачатку па-італьянску (але яго не зразумелі), а потым пераклаў па-ангельску: — Я кажу, што ты падобны на Нікола Паганіні, а мой бацька не згаджаецца. Кажа: Нікола быў малы ростам.

— Скажы свайму бацьку, што Нікола Паганіні падрос, — па-ангельску адказаў "Нікола Паганіні". І яны з сябрам гучна зарагаталі.

Італьянец-сын, збіваючыся, пераклаў італьянцу-бацьку гэты адказ, і яны пасмяяліся ўжо ўсе разам, учатырох. Як добра знаёмыя.

"Паганіні" з сябрам нацягнулі майкі. У аднаго на грудзях быў значок "Пагоня". У другога — бел-чырвона-белы сцяжок.

— Што гэта азначае? — спытаў бацька-італьянец, паказваючы на хлапечыя значкі.

Сын пераклаў на ангельскую мову. (Хлапчукі ў сваёй школе італьянскай не вывучалі — вывучалі ангельскую).

— Рэспубліка Беларусь, — годна, у адзін голас, адказалі хлапчукі па-беларуску.

Бацька з сынам паглядзелі адзін на аднаго.

— Беларашан,— пераклалі на ангельскую мову беларускія хлопцы.

— Гэта далёка адсюль? — пацікавіўся бацька-італьянец.

— Адсюль не відно, — схільны да жартаў, засмяяўся Нікола Паганіні.

— Тры гадзіны самалётам, — сур'ёзна патлумачыў яго таварыш.

— А-а... — усяго толькі працягнуў старэйшы італьянец і хацеў павярнуцца на бок, каб таксама ўстаць і пайсці ўжо з пляжа. Яны з сынам і так тут добра забавіліся. І раптам войкнуў так, нібыта яго шылам упаролі.

— Мама міа!

Што здарылася? — прыпыніліся беларускія хлапчукі.

— Мусіць, яго радыкуліт... — няпэўна сцяў плячыма сын.

Радыкуліт?! І на беразе гэтага іх, як сырадой з-пад каровы, цёплага Іянічнага мора, таксама вадзіліся хіба радыкуліты?..

— Мама міа!.. — енчыў бацька-італьянец, не здалеючы ні сагнуцца, ні разагнуцца.

— Дазвольце, сіньёр, я паспрабую дапамагчы вам... Зраблю вам масаж, — прапанаваў Нікола Паганіні.

Сын пераклаў бацьку яго прапанову.

— Што ён здолее... Што ён умее, гэты твой... Паганіні! — курчыўся ад болю бацька.

— У яго салідная медыцынская дынастыя, — зрабіў важкае ўдакладненне таварыш Ніколы Паганіні.

Сын пераклаў.

— Якая дынастыя?!. — сапраўды, якая дынастыя здольная была адолець гэты вар'яцкі боль тут, на пляжы?

— Прабабка — была дзіцячым урачом. Бабуля — прафесар медыцыны. Бацька — хірург. У нашы дні, — стрымана, з годнай усмешкай даў тлумачэнне сам Нікола Паганіні. Хутчэй каб пераканаць і абнадзеіць няшчаснага пляжнага сіньёра.

— Рабі, што хочаш... — слаба махнуў той бездапаможнай рукой.

Нікола Паганіні схіліўся над пакутнікам.

— На першы раз я зраблю кропкавы масаж...

Нібыта празрыстым толькі штрыхом — хутчэй сам з сабою, чым з сіньёрам — вызначыў ён сваю выратавальную праграму. Адным толькі гэтым першым разам — гэта ён добра разумеў — не абысціся будзе... Чуйнымі моцнымі пальцамі, як па клавіятуры раяля, Мікола Паганіні прайшоўся па сіньёравым хрыбетніку.

— Мама міа!.. — як маленькі, лямантаваў на ўвесь пляж і курчыўся сіньёр.

— Трэба пацярпець... Спачатку будзе балець. Затое пасля будзе добра, — засяроджана робячы сваю справу, нягучна прамаўляў Нікола Паганіні. — Трэба пацярпець...

Беларускую мову яго таварыш перакладаў на ангельскую, а сын небаракі суцяшаў бацьку па-італьянску ўжо.

Праз добрай паўгадзіны сапраўднай добрасумленнай працы і лекар і небарака з радыкулітам, нарэшце, перавялі дых. Нікола Паганіні выціраў майкай пот з твара, з рук, з уласнай грудзіны. Сіньёр з недаверам да сябе самога спрабаваў сваё так раптоўна знявечанае цела. Спачатку паспрабаваў павярнуцца на бок і прыўзняцца... Паспрабаваў выпрастаць спіну, а потым і сесці. І, аказваецца, здолеў... І ўжо зноў сам сядзеў!

— Viva republica Belarus! — не знайшоў лепшай падзякі свайму выратавальніку сіньёр Барталамеа (такое было ў яго імя) і з прысутным яго палкай нацыі энтузіязмам ускінуў угару свае чаравікі. — Viva republica Belarus!

— Жыве Беларусь! — як і падабала моманту, урачыста адгукнуліся яму Нікола Паганіні і яго таварыш. — Жыве Беларусь!

...Нікола Паганіні далечваў сіньёра Барталамеа ўжо ў яго дома. І вылечыў! І добра паставіў на ногі. Пры такой славе знайшлася, вядома, неўзабаве патрэба на лекі і ў суседзяў...

Але надышоў час і ад'язджаць дадому. На Беларусь.

Праводзілі Ніколу Паганіні і сам сіньёр Барталамеа і сіньёра Франчэска — яго жонка, і сіньярына Анжэліка (аднагодка Ніколы Паганіні) дачка, і сын-перакладчык Джавані... Усе яго абдымалі, цалавалі і звалі абавязкова прыязджаць наступным летам.

І нанеслі падарункаў!

## 3. Fabio і Маня

Трыстан і Ізольда. Дафніс і Хлоя. Лейла і Меджнун...

І вось ужо сённяшнія: Фабіа і Маня.

Усе з адной Краіны. Усе з краіны — Кахання!

.................................................................

— Вольга Сяргееўна, я вам нештачка скажу...

— Ну, скажы.

— Толькі не скажаце нікому?

— Нікому не скажу!

— Пабажэцеся! — туліцца шчочкай да плечука Вольгі Сяргееўны Маня.

(У Вольгі Сяргееўны дома засталіся хлапчукі-сыны — дзічкі — цяпер яны ўжо саромеюцца вось гэтак прыхіліцца да яе, або пацалаваць ці сесці ёй на калені, а каб была такая вось ласкавая, пацешная дачушка...)

— Бажуся! — смяецца Вольга Сяргееўна, сама тулячы Маню да сябе.

— Вольга Сяргееўна, ведаеце што... — доўгая загадкавая паўза. — За мною Фабіва бегае.

— Фабіа?! Гэты урвіс з усяе вуліцы, што адзін толькі ён і чуцён усюды?

Маня задаволена ківае галавой.

— І што ж будзе? Будзеце жаніх і нявеста?

— Не ведаю, — паціскае плечкамі Маня.

— На вяселле мяне запросіце?

— Угу, — сур'ёзна, зноў ківае галавою Маня.

— І ты застанешся тут, у Італіі, ці забярэш у свой Петрыкаў і Фабіа?

— Не ведаю. Як мамка скажа.

Маня паслухмяная дачка. Маня прыляцела ў Італію таксама з чарнобыльскай зоны. З дому адпраўляла Маню мама. Гэта адразу і відно: на Мані ўсё новенькае — і ружовая сукенка, і сандалікі на нагах. А на галаве ў Мані — пад колер вачэй — валошкі ў жыце! — два велічэзныя капронавыя банты. Па модзе яшчэ з часоў застою...

Маня памяркоўная, разважлівая. Яна скончыла ў школе першы клас і перайшла ўжо ў другі. Гаманіць з ёю адно задавальненне. Па-італьянску Маня вывучыла пакуль што адно толькі кароценькае слова "сі". І яна ім з задавальненнем карыстаецца.

— Манечка, табе падабаецца ў Італіі?

— Сі.

— І сябры ў цябе тут добрыя?

— Сі! — у Маніным голасе гучыць шчасце.

Нахіліўшыся да вуха Вольгі Сяргееўны, Маня смяецца:

— За мною Фабіва бегае!

— З чаго смяецца Маня? — пытаюцца ў Вольгі Сяргееўны цікаўныя італьянкі.

Сіньёра Тэрэза вядзе машыну, сіньёра Лаура сядзіць побач з ёю. Вольга Сяргееўна ўрач-перакладчык — на заднім сядзенні. Абапал яе сядзіць Маня з Петрыкава і Джульета з Рыма.

(Джульета — унучка сіньёры Лауры — прыехала ў гэты маленькі італьянскі гарадок на ўсё лета гасціць да бабулі. Пакуль яе бацькі падарожнічаюць па ўсім свеце.)

Усе едуць абедаць да сіньёры Тэрэзы. У яе сям'і жыве Маня. А ўрач-перакладчык адзін раз у тыдзень абавязкова наведвае кожную сям'ю, дзе ёсць дзеці з зоны. Такое ўстанаўленне, такі парадак заведзены мясцовай дабрачыннай уладай.

— Чаго смяецца Маня? — і самі смяюцца абедзве сіньёры.

— Маня кажа, што на яе мае віды Фабіа... — няпроста перакладае няпростую сітуацыю на італьянскую мову Вольга Сяргееўна.

Абедзве сіньёры аж заліваюцца нястрымным — італьянскім! — смехам.

("Як бы мы з гэтымі жартамі даехалі б хоць цэлыя да месца"... — у думках пабойваецца ўжо Вольга Сяргееўна, назіраючы за бесклапотным рулём у адчайных руках сіньёры Тэрэзы).

І ў гэты момант машыну агалошвае страшэнны лямант (няўжо ў рымлянак такія металёвыя галасавыя звязкі?!)

— Я заб'ю і гэту Маню! Заб'ю і гэтага Fabio!

(Пераклад недакладны — хутчэй прыблізны, хутчэй набліжаны да нашай роднай рэчаіснасці).

— Madonna! — у адзін голас усплёскваюць рукамі сіньёра Лаура і сіньёра Тэрэза.

— Я іх пазабіваю! — выбуховы італьянскі тэмперамент на вачах, у адзін момант, ператварае, як выпечаную з найлепшай здобы, рымскую патрыцыянку (ганарыста прыўзняты носік, чорны шоўк, як выпісаных броваў і буйных хвалістых валасоў вакол дасканалай смуглай галоўкі) у злосную брыдкую маленькую фурыю.

Аказваецца, віды на Fabio ёсць і ў самой Джульеты з Рыма.

Маня ж, не разумеючы ні слова, нават і не здагадваецца, што праз яе вось-вось гатовы выбухнуць міжнародны канфлікт.

...Аднак смачны абед у гасціннай вынаходлівай сіньёры Тэрэзы прыводзіць калі і не да поўнага, дык ва ўсякім разе да часовага замірэння.

.................................................................

Незадоўга да ад'езду з Італіі Маня, незвычна прыціхлая, як заўсёды хіліцца да плечука Вольгі Сяргееўны.

— Што, Манечка?

— Вольга Сяргееўна, ведаеце што?..

— Што?..

— Фабіва ўжо за Жульеткай бегае... (Цяжкі ўздых).

Усе дарогі вядуць у Рым!

— Ужо! Ну і няхай сабе! Падумаеш, такое вялікае шчасце — Фабіа!

— А Жульетка таксама...

— А хіба нашы хлопчыкі... Наш Мікола Паганіні?.. Горшыя хіба за гэтага самага Фабіа?

— Паганіні мяне на веліку вазіў...

— Ну вось бачыш!

— Паганіні яшчэ ў сто разоў лепшы за Фабіва... — суцяшае сама сябе Маня.

І зноў зацвітае сіняя валошка ў жыце!

ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ
ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

**Заснавальнікі:**
**Саюз пісьменнікаў Беларусі і Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь**

**Выходзіць з 1932 года**

*Газету рэдагавалі*

| | |
|---|---|
| Х.Дунец | (1932–35) |
| І.Гурскі | (1935–41) |
| А.Куляшоў | (1945–46) |
| М.Горцаў | (1947–49) |
| П.Кавалёў | (1949–50) |
| В.Вітка | (1951–57) |
| М.Ткачоў | (1957–59) |
| Я.Шарахоўскі | (1959–61) |
| Н.Пашкевіч | (1961–69) |
| Л.Прокша | (1969–72) |
| Х.Жычка | (1972–76) |
| А.Асіпенка | (1976–80) |
| А.Жук | (1980–86) |
| А.Вярцінскі | (1986–90) |

**Галоўны рэдактар**
**Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
Святлана БЕРАСЦЕНЬ
Андрэй ГАНЧАРОЎ
*першы намеснік галоўнага рэдактара*
Міхась ЗАМСКІ
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ
Барыс ПЯТРОВІЧ
*намеснік галоўнага рэдактара*
Юрась СВІРКА

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220600, ГСП, Мінск,
вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі *332-461*
намеснікі галоўнага рэдактара *332-525, 331-985*
аддзелы:
публіцыстыкі *332-525*
пісьмаў і грамадскай думкі *331-985*
літаратурнага жыцця *332-462*
крытыкі і бібліяграфіі *332-204*
паэзіі і прозы *332-204*
музыкі *332-153*
тэатра, кіно і тэлебачання *332-153*
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў *332-462*
навін *332-462*
мастацкага афармлення *332-204*
фотакарэспандэнт *332-462*
бухгалтэрыя *268-640*

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра «ЛіМа»**
**Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма «Дайнова»**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах
Друкарня "Беларускі Дом друку". (г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 77)
Індэкс 63856. Наклад 11534.
Нумар падпісаны 22.12.1994 г.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

